НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 11 (896) 18 сакавіка 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



Што будзе, калі знікне Пуцін

Старонка 3

27-гадовага фермера забілі і спалілі за грошы




Старонка 11

Алесь Краўцэвіч: Ліцвінства — выдумка ворагаў, якую падтрымалі дурні



Старонка 13

# Пенсія ў паляка большая, чым заробак у беларуса



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Старонка 5

Кароткае падарожжа ў свет тых, хто адрозніваецца ад нас з вамі

Старонка 6



УЛАДЗЬ ШВЯДОВІЧ


1


2


3


3

Старонка 14

Еўрапеоід, але ці Каліноўскі?

# Крым — гэта Украіна, і яго давядзецца вяртаць

16 сакавіка споўніўся год з моманту «рэферэндуму» аб далучэнні **Крыма да Расіі**. Гэты рэферэндум не мае юрыдычнай сілы.



Украіна — бедная карумпаваная краіна, якая не мае і не мела грошай для развіцця Крыма (таксама як і іншых рэгіёнаў). Вялікай колькасці крымчукоў, сярод якіх большасць — этнічныя рускія, мабыць, было некамфортна ва ўмовах, калі адзіная дзяржаўная мова — украінская і калі ідэалогія ўкраінскай незалежнай дзяржавы супярэчыла звыкламу светапогляду многіх рускамоўных людзей старэйшага пакалення. Істотная частка насельніцтва Крыма, цалкам магчыма, была за далучэнне да Расіі. Усё гэта так. Але што па законе з гэтага павінна вынікаць? А нічога.

Бо дзяржаўныя межы па законе змяняюцца толькі ў адпаведнасці з дэмакратычнымі і сумленнымі рэферэндумамі, якія праводзяцца па выніках працяглай, спакойнай і падрабязнай дыскусіі і без умяшальніцтва трэціх краінаў.

Пагатоў без умяшальніцтва краіны, аб далучэнні да якой ідзе гаворка.

Перад вачыма процьма прыкладаў, як ідзе абмеркаванне і ўсенароднае волевыяўленне аб аддзяленні рэгіёнаў у развітых краінах: Шатландыя, Квебек, Каталонія. Там у кожным выпадку была шматгадовая актыўная дыскусія з разглядам усіх магчымых меркаванняў. Было і ідзе падрабязнае абмеркаванне ўсіх эканамічных аспектаў магчымага аддзялення.

Багатая Каталонія не жадае карміць астатнюю Іспанію.

Шатландцы хочуць самастойна дабываць нафту ў Паўночным моры.

У той жа час у Крыме нават не падумалі пра тое, як у выпадку аддзялення ад Украіны быць з пастаўкамі электраэнергіі і вады, якія цалкам ішлі і да гэтага часу працягваюць ісці менавіта з (астатняй) Украіны.

Бо Крым, аказваецца, быў перададзены УССР не таму, што Хрушчоў быў украінскі патрыёт, а таму што гэта дыктавала эканоміка.

«Рэферэндум» аб лёсе Крыма, які адбыўся 16 сакавіка 2014 года, быў ініцыяваны, арганізаваны і праведзены ў лічаныя дні. Пытанні на ім былі сфармуляваныя так, што проста адсутнічала такая відавочная для любога рэферэндуму опцыя, як «пакінуць усё так, як яно ёсць».

Рашэнні пра незалежнасць і рэферэндум крымскі парламент прымаў, будучы акупаваным «ветлівымі людзьмі» — расійскім спецназам.

Не трэба быць юрыстам, каб разумець: так справы не робяцца.

Крымскі «рэферэндум» 2014 не проста не мае юрыдычнай сілы. Ён ёсць яшчэ большым фарсам, чым «рэферэндумы», арганізаваныя ў Беларусі ў 1995, 1996 і 2004 гадах.

Ніякая пагроза з боку якіхсь украінскіх нацыяналістаў ніякім аргументам для гэткіх відавочных парушэнняў закона быць не можа. Тым болей, што гэтай пагрозы не існавала ў прыродзе — калі меркаваць па тым, што рускамоўныя Харкаў, Днепрапятроўск, Херсон і іншыя рэгіёны як жылі спакойна, так і жывуць.

Расійскае тэлебачанне корміць гледача малюнкамі пра пагалоўнае і ўсенароднае жаданне жыхароў Крыма стаць часткай Расеі: маўляў, «ну і так жа ўсё зразумела». Але наколькі такое ўяўленне адпавядае рэчаіснасці?

Мяркуючы па ўсім, яшчэ на пачатку 2014 года ў Крыме мала хто нават задумваўся аб аддзяленні ад Украіны.

Даваенная сацыялогія сведчыць пра тое, што прыхільнікаў далучэння да Расеі ў Крыме была выразная меншасць. Радыкальная сепаратысцкая партыя Сяргея Аксёнава на крымскіх выбарах 2010 года наогул атрымала ўсяго 4% галасоў.

Каму б што ні хацелася, але Крым быў і дэ-юрэ застаецца міжнародна прызнанай часткай Украіны, што пацверджана кіпаю дакументаў, падпісаных Расіяй пачынаючы з 1990 года. Гэткія ж дакументы гарантуюць расійскі статус Усходняй Прусіі і Курылаў. І дзіўна нават думаць: як можа Расія пасля чачэнскіх войнаў і пасля сур'ёзных сепаратысцкіх рухаў у Татарстане, Якуціі і іншых рэгіёнах гуляцца ў небяспечныя гульні з перакройваннем дзяржаўных межаў?

Крым давядзецца вяртаць Украіне: з пункту гледжання закона гэта не можа быць прадметам абмеркавання.

Пытанне ляжыць толькі ва ўмовах і абставінах гэтага. Напэўна, спатрэбіўся б гарантаваны статус для расійскай мовы, гарантыі бяспекі для мясцовай эліты, шырокая аўтаномія. Цалкам верагодна, што спатрэбіўся б працяглы, на некалькі гадоў, пераходны перыяд і «падвешаны статус» Крыма пад міжнародным мандатам, пасля чаго правядзенне нармальнага дэмакратычнага рэферэндуму. Для чаго спатрэбілася б змена Канстытуцыі Украіны, якая цяпер не прадугледжвае рэферэндумаў аб аддзяленні ў асобных рэгіёнах — і на такія змены ўкраінцам было б варта пайсці.

Але як пасля цяперашняга эмацыйнага прапагандысцкага ўсплёску тлумачыць непазбежнасць вяртання Крыма няшчасным расійцам і крымчукам — гэта ўжо расійская праблема. І гэта будзе сапраўды вельмі вялікая і вельмі сур'ёзная праблема.

**Антон Каленік**

**Крымнаш у лічбах***

Пасажыраабарот — мінус 37,7%

Грузаперавозкі — мінус 32,1%

Прамысловасць — мінус 9,9%

Сельская гаспадарка — плюс 0,7%

Імпарт — мінус 93,2%

Экспарт — мінус 84,2%

Лічба турыстаў — мінус 35,6%

Абарот гандлю — мінус 7,6%

Рост цэн на:

прадукты — 52,9%

нехарчовыя тавары — 29,3%

паслугі — 27%

*вынікі 2014 у параўнанні з 2013

## Логвінаў сабраў амаль усе грошы і атрымаў растэрміноўку

Эканамічны суд Мінска даў прадпрымальніку Ігару Логвінаву растэрміноўку на два месяцы для пагашэння запазычанасці, якая ўтварылася пасля рашэння суда аб канфіскацыі больш чым 960 мільёнаў рублёў даходу ПВУП «Логвінаў».

На сёння з дапамогай грамадскасці Беларусі і замежжа прадпрымальніку ўдалося сабраць каля $58 000 з $64 000, неабходных для поўнага пагашэння запазычанасці. Прадпрымальнік мяркуе, што за той час, які прадпрыемству даў суд, астатнюю частку грошай удасца сабраць.

**БелаПАН**

### Сцісла

**Самыя выгадныя дэпазіты — не вышэй за 45%**

Нацбанк параіў банкам апусціць стаўкі па рублёвых укладах да 45% гадавых. Большасць прыслухалася да закліку, выключэннем пакуль што застаецца «Белгазпрамбанк» (48—50%) і нацбанкаўскі «ММБанк» (да 47%). Яшчэ тыдзень таму стаўкі дасягалі 55%. Расійскія рублі тым часам прымаюць пад 16%. Максімальныя стаўкі па даляры і еўра — 6,5%.

**Сын Сумара больш не начальнік ДАІ**

Андрэй Сумар пакінуў пасаду начальніка Брэсцкага абласнога ўпраўлення ДАІ менш чым праз тры месяцы пасля адстаўкі свайго бацькі, старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара. Сумар — малодшы займаў пасаду тры гады, да гэтага ўзначальваў Камянецкі райаддзел міліцыі.

**Прапаў залаты батон Януковіча**

Генеральная пракуратура Украіны, магчыма, згубіла канфіскаваныя з рэзідэнцыі экс-прэзідэнта каштоўнасці. Лёс знакамітага залатога батона, які год таму стаў негалосным сімвалам улады збеглага прэзідэнта Віктара Януковіча, застаецца невядомым.

**Почырк Купалы пераўтварылі ў камп'ютарны шрыфт**

Мінскі дызайнер Павел Мінкевіч стварыў на базе почырку паэта шрыфт «Пясняр». Дызайнер выкарыстаў рукапісы з Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Прэзентацыя шрыфту пройдзе ў музеі Купалы ў чацвер, 19 сакавіка. На ёй выступіць графолаг, які ахарактарызуе асобу Купалы па почырку.

**ЯМ, АА**

### Апытанні на nn.by

**Якой Вы веры?**

| | | |
|---|---|---|
| праваслаўны | 783 | 30% |
| атэіст або агностык | 542 | 21% |
| каталік | 531 | 20% |
| я проста хрысціянін, па-над падзеламі | 451 | 17% |
| уніят | 202 | 8% |
| пратэстант | 81 | 3% |
| юдзей | 30 | 1% |
| мусульманін | 11 | 0,4% |

Прагаласавалі 2631 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 11—17 сакавіка

1 Чалавек, які жыве ў зямлянцы: «Я на бутэльках маю больш, чым рабочыя на заводзе»

2 Дззерцір Ісламскай дзяржавы расказаў, чаму закладнікі баевікоў такія ціхія перад смерцю

3 Прэс-служба Пуціна распаўсюдзіла фота яго сустрэчы са старшынёй Вярхоўнага Суда

4 Турма не да спазнання змяніла работніц Мінюста, якіх судзяць за хабар

5 RSI: Аліна Кабаева нарадзіла сына ў Швейцарыі

6 Расійскія нацыяналісты: Віцебск, Магілёў і Гомель былі перададзеныя Беларусі незаконна

7 Пяскоў: Пуцін толькі што прыляцеў са Швейцарыі, дзе прымаў роды

8 Альфрэд Кох выказаў меркаванне, дзе Пуцін

9 Якуб Лапатка: Чаму Сталін 75 гадоў таму ўсё ж не рашыўся заняць Хельсінкі

10 Расія выходзіць з Дамовы аб звычайных узбраеннях

# Чаго прыязджаў кардынал Паралін?

Мінск наведаў **дзяржаўны сакратар Ватыкана**.

У Беларусі пасада Параліна адпавядала б месцу прэм'ер-міністра, то бок другога чалавека ў дзяржаве. Таму зусім не дзіва, што прымалі прадстаўніка Ватыкана на такім высокім узроўні. Ён меў сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, прэм'ерам Андрэем Кабяковым, міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем, старшынёй Мінгарвыканкама Андрэем Шорцам. У гэтым няма нічога надзвычайнага. Прыкладна гэтаксама ў 2008-м прымалі папярэдніка Параліна — Тарчызіа Бертонэ.

«Гэтым візітам Мінск замацоўваецца як пляцоўка для міжканфесійнага дыялогу паміж Ватыканам і РПЦ, — кажа эксперт-рэлігіязнаўца, які папрасіў не называць яго імя. — Сюды ж пастаянна прыязджаюць прадстаўнікі Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству. Раней тут быў кардынал Вальтэр Каспер, пасля — Курт Кох». Дарэчы, яны таксама мелі сустрэчы з Лукашэнкам.

Справа ў тым, што ў Маскве не надта ахвоча прымаюць такіх высокіх гасцей з Ватыкана. Таму нярэдка месцам для перамоваў абіраецца менавіта Беларусь.

Мала хто сёння сумняваецца, што з дапамогай Ватыкана афіцыйны Мінск спадзяецца зноў палепшыць адносіны з Еўропай. Гэтак было і напярэдадні мінулай «адлігі», калі Аляксандр Лукашэнка нават злётаў у Ватыкан на сустрэчу з Бенедыктам XVI. Тым больш, П'етра Паралін — асоба даволі незвычайная. Ён быў пасярэднікам у перамовах ЗША і Кубы, якія прывялі да аднаўлення дыпламатычных адносін між дзвюма краінамі. Ён таксама рабіў спробу пасярэдніцтва на перамовах між Нікаласам Мадура і венесуэльскай апазіцыяй, якія выніку не далі.

Звяртае ўвагу, што падчас візіту Параліна з мінскімі чыноўнікамі так і не ўздымалася пытанне канкардату (пагаднення паміж Ватыканам і дзяржавай, якое б рэгулявала прававы статус Каталіцкай царквы ў дзяржаве). Кажуць, што супраць такога пагаднення выступае Масква. Таму цяпер гаворка вядзецца толькі пра статус Каталіцкай царквы ў асобных рэгіёнах Беларусі, а не ва ўсёй краіне.

Аляксандр Лукашэнка праз П'етра Параліна даслаў запрашэнне папу Францішку наведаць Беларусь. Лукашэнка мог гэта зрабіць як кіраўнік дзяржавы, але для гэтага таксама патрэбны дазвол галавы дамінуючай у краіне канфесіі. На сёння гэта праваслаўе. І прычым дазвол павінен даваць не мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, а патрыярх РПЦ Кірыл. У такім стане візіт Папы ў Беларусь пакуль не бачыцца магчымым.



П'етра Паралін (у цэнтры) у кампаніі з міністрам замежных справаў Беларусі Уладзімірам Макеем (крайні злева) на закладанні будынка нунцыятуры ў Мінску.

З іншых добрых нагодаў для візіту — закладанне нунцыятуры (пасольства Ватыкана) у цэнтры Мінска. Гэтую падзею сваёй увагай не прамінулі значныя дзяржаўныя чыноўнікі.

Напрыканцы свайго знаходжання ў Мінску П'етра Паралін адслужыў святую імшу ў Архікатэдральным касцёле. Прамова кардынала ў першую чаргу засяроджвалася на пытанні дзяцей. Але многія звярнулі ўвагу, што Паралін працытаваў вершы Уладзіміра Някляева і Валярыны Куставай. Падчас іншай сустрэчы з моладдзю ў Чырвоным касцёле святар расказаў, што захапіўся творчасцю Рыгора Барадуліна.

А прылятаў дзяржсакратар Ватыкана зусім не чартарам, а звычайным рэйсавым самалётам.

**Зміцер Панкавец**

**Каментар**

# Што будзе, калі знікне Пуцін

Піша **Андрэй Дзмітранок**.



Галоўнай навіной апошняга тыдня стала адсутнасць Уладзіміра Пуціна. Прэсавая служба супакойвае грамадства фармулёўкай «прэзідэнт працуе над дакументамі», публіка ж усцешваецца рознымі версіямі.

Самая відавочная, калі адкласці ўбок афіцыйную, і яна ж для некаторых самая пажаданая — Пуцін сур'ёзна захварэў, і менавіта таму тэлевізар асірацеў. Падсаджаная на інфармацыйную іголку аўдыторыя не можа без «карцінкі», таму тэлебачанне паказвае архіўныя запісы сустрэч з чыноўнікамі.

Менавіта з кантролю над сродкамі масавай інфармацыі пачыналася станаўленне існуючага рэжыму. За 15 гадоў улада ўдасканаліла сістэму маніпулявання настолькі, што сапраўды незалежных СМІ не засталося, ім на змену прыйшло інфармацыйнае войска. Ягоную моц і ўздзеянне можна пабачыць на прыкладзе таго, з якой лёгкасцю літаральна за год братні ўкраінскі народ ператварыўся ў лютага ворага.

Версія пра хваробу вельмі простая, каб быць праўдай, і галоўнае, усё гэта не падобна да Пуціна, бо неяк звычайна.

Звышчалавек з коміксаў (а інакш тэлевізар яго і не малюе) так не сыходзіць. Лёс састарэлага супермена з «Бёрдмэна» наўрад ці яму наканаваны. Больш імаверны сцэнар з «У нас ёсць Папа», дзе чалавечая стома і разгубленасць апаноўваюць Папу, і ён губляецца ў натоўпе. Варыянт цалкам чалавечны і ўвогуле магчымы. Самаўхіліцца ад улады — учынак мужны і, магчыма, адзіна верны. Лепш займацца на градах капустай, калі наладзіць сусветныя працэсы не ўдаецца.

Некаторыя мясцовыя канспіролагі наогул даводзяць сітуацыю да абсурду: прапануюць прыглядзецца да падліку наведвальнікаў мінскага метро. У Картасара ёсць апавяданне, у якім гаворка ідзе пра несупадзенне колькасці пасажыраў на ўваходзе і пры выхадзе. Для простага падліку не трэба вяртаць квіткі назад, дастаткова падлічыць колькасць праходу праз турнікеты. У апавяданні людзі знікаюць, каб жыць іншым жыццём у падземцы. Можа, мэтай усяго гэтага падліку і быў пошук таго, хто заблытаўся ў містычным пераходзе паміж станцыямі «Старая плошча» і «Каменная Горка»?

Гэтыя ды іншыя версіі аб'яднаны думкай, што імгненнае знікненне Пуціна раптам усё выправіць. Спадзяванні грунтуюцца выключна на міласэрнасці лёсу, але не ўлічваюць прыроду адбудаванай сістэмы.

Мінулы, 2014-ы, стаў годам абсалютнай крышталізацыі персоны Пуціна. Не засталося больш адценняў і прымешкаў, у залежнасці ад палітычных поглядаў яго бачаць сусветным злом ці, наадварот, найлепшым з найлепшых.

Гісторыя ўжо аднойчы прадэманстравала магчымыя наступствы такой абсалютызацыі. Першая сусветная вайна і Версаль спарадзілі галоўную пачвару чалавецтва — Гітлера. Ён прыйшоў на запатрабаванне нямецкай большасці як увасабленне грамадскай замовы.

Падчас яго кіравання зло з канцлагерамі, масавымі забойствамі, вайной ды іншымі злачынствамі дасягнула максімуму, і менавіта гэта дало шанец зрынуць яго. Гітлер, як максіма адмоўнага, быў карысны менавіта такім, што дазволіла аб'яднаць сусветную супольнасць на барацьбу і зрынуць яго. Што было б, калі адзін са шматлікіх замахаў спраўдзіўся і да ўлады прыйшлі саратнікі фюрара па партыі, толькі больш гнуткія і хітрыя? Як найменш, вайна б зацягнулася, фашысцкая Германія, магчыма, атрымала б ядзерную зброю, нялюдская ідэалогія працягвала б існаваць, замаскавана, але дзейсна. Германіі, якую мы ведаем сёння, проста не было б... Была патрэбна жорсткая санацыя грамадства. Толькі пасля паразы немцы зразумелі, у якую бездань уцягнуў іх нацысцкі важак.

Цяпер уявіце Расію: што зменіцца, калі Пуцін знікне? Да ўлады прыйдзе іншы чалавек з цяперашняй каманды, але настрой расіян не зменіцца, краіна і надалей будзе «ўставаць з кален», і рэваншысцкі «крымнаш» дазволіць рабіць што заўгодна.

Спадзяваннем на новага Хрушчова ці Гарбачова не наканавана спраўдзіцца, бо, у адрозненне ад дня сённяшняга, у 53-м ці 85-м у грамадстве быў вялікі запыт на «адлігу». Эліты і просты народ, стомленыя пасля войнаў і рэпрэсій, чакалі спакойнага, годнага жыцця. Узбуджаныя тэлівізарам расіяне сёння з усмешкай успрымаюць цяжкасці санкцый, нібы ў дзіцячай гульні з радасцю бяруць зброю ў рукі. Машыну нянавісці запыніць адным махам не ўдасца, думкі і мары «справядлівага» рэваншу застануцца і абавязкова будуць імкнуцца прыйсці ў дзеянне.

Простае знікненне Пуціна нічога не дае, бо не ліквідуе ўмовы, што прыводзяць да ўлады лідараў такога кшталту. Толькі дасягнуўшы дна, расіяне змогуць пазбавіцца Пуціна ў самым шырокім сэнсе. Без злому пануючай ідэалогіі і сапраўднага шчырага прабачэння з боку расіян за тое, што зроблена, зрабіць гэта будзе немагчыма.

У гэтай сітуацыі беларусам, украінцам ды іншым народам варта абапірацца выключна на сваю моц, не звяртаючы ўвагу на імя кіраўніка суседняй дзяржавы, бо Пуціна магчымы толькі Пуцін. Зразумець, што латарэйны квіток не будзе выйсцем у сітуацыі, калі розыгрыш адбываецца ў звар'яцелым тэлевізары савецкай вытворчасці.

*П.С. 18 сакавіка расійскія тэлеканалы пасля 10-дзённай адсутнасці зноў паказалі Пуціна. Дзе ён прападаў гэтыя дні, ніхто не патлумачыў.*

# Расійскія нацыяналісты: Віцебск, Магілёў і Гомель былі перададзеныя Беларусі незаконна

Сайт «Спутник і погром» апублікаваў рэзкі артыкул, у якім ставіць пад сумнеў **тэрытарыяльную цэласнасць** беларускай дзяржавы.

«Усе ведаюць, што ў 1954 годзе Крым незаконна перадалі са складу Расейскай СФСР у склад Украінскай ССР, аднак мала каму вядома, што ў 1920-х гадах у склад Беларускай ССР сілком загналі Віцебшчыну, Магілёўшчыну і Гомельшчыну, якія раней належалі РСФСР. Віцебск, Магілёў і Гомель былі перададзеныя Савецкай Беларусі як мех бульбы», — піша аўтар Аляксандр Авер'янаў-Мінскі.

І прыводзіць карту земляў, якія Беларусь, на яго думку, атрымала незаслужана, «як мех бульбы».

Сутнасць публікацыі зводзіцца да таго, што беларусаў ніколі не было ва ўсходняй частцы краіны, а калі і былі нейкія беларусы, то яны даўно страцілі сваю беларускую ідэнтычнасць: мову і культуру.

Аўтар падводзіць ідэалагічную базу пад тое, што неабходна перагледзець сучасныя межы. Падобным чынам пачыналася вайна Расеі супраць Украіны год таму.

**ЗП**




## Цэнтральны раён Мінска ўзначаліла былая прадавачка з Талачыншчыны

Сярод дзевятнаццаці кадравых прызначэнняў, якія правёў на гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка, ёсць толькі **адна жанчына**.



Ганна Мар'янаўна Мацельская стала кіраўніком адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска. Не так шмат у нас жанчын-кіраўнічак нават на нізавым узроўні. Прыгледзімся, хто ж яна такая?

Спадарыні Мацельскай 45 гадоў. Яна родам з Валожыншчыны, з вёскі Мейшты, што недалёка ад Івянца. Пасля школы Ганна Мацельская паступіла ў Мінскае кааператыўнае ПТВ, дзе правучылася год. Пасля будучую чыноўніцу размеркавалі ў Талачынскі раён.

Спачатку Ганна Мацельская працавала звычайнай прадавачкай, пасля — загадчыцай магазіна. Урэшце — інструктарам па арганізацыі і тэхніцы гандлю Талачынскага райспажыўсаюза.

У 1997 годзе Ганна Мацельская скончыла Гомельскі кааператыўны інстытут па спецыяльнасці «таваравед нехарчовых тавараў».

Пасля непрацяглай працы ў Віцебскім і Мінскім аблспажыўсаюзах жанчыну запрашаюць на працу галоўным спецыялістам у Камітэт дзяржаўнага кантролю, дзе яна займалася маніторынгам спажывецкага рынку і сферы паслуг (1999—2010).

Апошнія чатыры гады Ганна Мацельская была першай намесніцай кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска.

**ЗП**

## ІП дабіліся магчымасці прадаваць тавары без сертыфікатаў да 2016 года

«Больш адтэрміноўкі не будзе! І так робім вельмі вялікія саступкі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы рынак «Экспабел». Ён меў на ўвазе гандаль індывідуальных прадпрымальнікаў без сертыфікатаў, якія пацвярджаюць якасць тавараў.

«Трэба ісці да цывілізаванай формы гандлю, — падкрэсліў Лукашэнка. — Гэта ненармальна, калі мы без дакументаў сумкамі возім тавар. Гэта нават нас прыніжае».

«Без дакументаў у Беларусі ніхто працаваць не будзе! Усё роўна калісьці трэба пераходзіць да гэтай цывілізацыі. Тым больш з маімі жорсткімі падыходамі», — дадаў Аляксандр Лукашэнка.

На думку кіраўніка дзяржавы, усё прадпрымальнікі ў краіне павінны працаваць у роўных умовах.

Аляксандр Лукашэнка прапанаваў індывідуальным прадпрымальнікам аб'ядноўвацца і разам падумаць над тым, як яны маюць намер працаваць з наступнага года ў такіх умовах.

«Праца без дакументаў працягваецца да 1 студзеня 2016 года. Пасля 1 студзеня 2016 года праца толькі па дакументах, — падкрэсліў Андрэй Кабякоў. — На працягу года роўнымі часткамі за тры разы стаўка ПДВ будзе павышацца з 2 да 4».

**АГ; паводле БелТА**



## Дзярждума адмовілася ўшанаваць памяць Барыса Нямцова хвілінай маўчання

Дэпутат Дзмітрый Гудкоў на пасяджэнні 17 сакавіка прапанаваў ушанаваць памяць Барыса Нямцова хвілінай маўчання.

«Нягледзячы на тое, што не ўсе падзялялі яго погляды, я лічу правільным па-людску ўшанаваць памяць хвілінай маўчання», — сказаў Гудкоў.

Старшыня Дзярждумы Сяргей Нарышкін адмовіўся паставіць гэтае пытанне на галасаванне, адзначыўшы, што ўжо накіраваў тэлеграму са спачуваннямі сваякам Нямцова.

**meduza.io**

## «А раптам Коля і Пеця — сябры Гітлера»

Перад пачаткам сезона адбылася **сустрэча міліцыі** і футбольных клубаў.

Вялікая частка размова датычыла фанацкіх банераў і праблемы іх рэгістрацыі. У Беларусі на футбольных матчах можна вывешваць толькі тыя транспаранты, якія былі ўзгодненыя з міліцыяй.

І калі «адвечныя» банеры, якія вісяць на трыбунах ад гульні да гульні зарэгістраваць не складана, то з сітуацыйнымі, злабадзённымі цяжэй. «Напрыклад, футбаліст Коля забіў 100 галоў, і сектар яго з гэтым віншуе, ці ў Васі дзень нараджэння, ці ў Пеці сын нарадзіўся. Няўжо на іх рэгістрацыю таксама трэба марнаваць узгодненыя законам ад 15 да 30 дзён?» — пытаўся намеснік старшыні Беларускай федэрацыі футбола Сяргей Сафар'ян.



Уладзімір Станілевіч.

«А раптам Вася ці Пеця — сябры Гітлера», — прад'явіў «забойчы» аргумент Уладзімір Станілевіч — начальнік аддзела па масавых мерапрыемствах міліцыі грамадскага парадку МУС.

Сяргей Сафар'ян нават не вытрымаў: «У нас у федэрацыі працаваў чалавек з імем па бацьку Адольфавіч, дык што, яго не пускаць у федэрацыю, а то раптам ён пазашлюбны сын Гітлера?»

Прадстаўнік мінскага «Тарпеда» папоўніў скарбонку абсурдных гісторый. У іх на сектары быў банер з выявай славутага трэнера Мікалая Блашко. «Цяпер нават нам сказалі, што не прапусціць гэты банер. Бо ў ім пабачылі Бандэру».

**Зміцер Панкавец**

## Ксенія Сабчак пакідае Расію?

Пра гэта піша расійская газета **«Коммерсант»**.

33-гадовая Сабчак — вядомая расійская тэлевядоўца і свецкая львіца. Яна дачка аднаго з лідараў расійскага дэмакратычнага руху 1980—90-х — мэра Пецярбурга Анатолія Сабчака, у камандзе якога пачынаў свой узлёт Уладзімір Пуцін. Яна падтрымлівала антыпуцінскі рух інтэлектуальна і фінансава. Сярод іншага, яна рэзка выкрывала агрэсію Расіі ва Украіне. Чалавек здольны, яна працавала ў тым ліку на адзіны незалежны ў Расіі тэлеканал «Дождь».

Як піша «Коммерсант», пра сваё рашэнне часова выехаць з краіны Сабчак паведаміла на вячэры ў гонар выхаду новага нумара часопіса L'Officiel — першага пад яе кіраўніцтвам.

«Адмяніць прэм'еру спектакля «Жаніцьба» ў Тэатры нацый я не магла, як і гэтую вячэру, але заўтра ж пакіну Расію на некаторы час», — сказала Сабчак.



Сабчак на месцы забойства Нямцова.

Блізкія сябры неафіцыйна тлумачылі, што з'язджае яна па рэкамендацыі спецслужбаў.

Сама ж Сабчак сказала, што чуткі пра яе эміграцыю «моцна перабольшаныя». Хутчэй за ўсё, гэта часовы выезд за мяжу з далейшым вяртаннем у Расію.

**Мікола Бугай**

Як **адрозніваюцца пенсіі** ў суседніх краінах?

# Пенсія ў паляка большая, чым заробак у беларуса

Рост пенсій ад пачатку года быў фактычна замарожаны. «Пенсіі будуць павышацца з улікам росту заробкаў і фінансавых магчымасцяў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва», — патлумачыў намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў. А заробкі якраз такі не растуць.

У лютым сярэдняя пенсія па ўзросце склала 2 748 450 рублёў. Ці многа гэта? Пры нашым узроўні цэн пражыць на такія грошы складана, пацвердзяць пенсіянеры.

А што ж у суседзяў? «Наша Ніва» параўноўвае беларускую дапамогу сталым людзям з той, што прапануюць іншыя дзяржавы.

У даляравым эквіваленце беларуская пенсія складала $182 па тагачасным курсе. І ўпершыню за доўгі час яна аказалася вышэйшай за расійскую.

Усходнія суседзі мелі ў студзені ў сярэднім усяго па $168. Усяму прычынай эканамічны крызіс, выкліканы вайной ва Украіне, падзеннем цаны нафты, а таксама санкцыямі Захаду. Праўда, цяпер за кошт узмацнення расійскага рубля даляравы эквівалент пенсій трошкі падрос і амаль зраўняўся з беларускім.

Вайна не магла не падкасіць і ўкраінскіх пенсіянераў. Апошнія звесткі аб памеры дапамогі па ўзросце ў гэтай краіне датуюцца кастрычнікам 2014 года. Тады пенсіянеры атрымлівалі ў сярэднім па $129. Аднак пры цяперашнім курсе пенсіі абрынуліся да $75.

Сітуацыя ў Малдове яшчэ горшая. Статыстыка за пачатак 2015 года — сярэдняя $69 кожнаму пенсіянеру.

Краіны Балтыі перайшлі на еўра, таму ў выніку плаўнай дэвальвацыі ў адносінах да даляра грошы часткова абясцэніліся. Фактычна кожны пенсіянер згубіў па $40—60. Напрыклад, у Літве ў снежні мінулага года сталыя грамадзяне атрымлівалі па $296, а цяпер іх пенсіі эквівалентныя $255.

У латвійцаў у чацвёртым квартале 2014 года пенсія складала $338. Цяпер на $50 менш.

Нарэшце, Эстонія, якая застаецца самай паспяховай у рэгіёне. Сталыя жыхары ў канцы мінулага года атрымлівалі па $437, але крызіс еўра, зразумела, ударыў і па іх.

Аднак за межамі былога СССР пачынаецца зусім іншае жыццё. Сярэдні паляк-пенсіянер у лістападзе мінулага года меў $606. І нават пры цяперашнім курсе атрымлівае каля $520 — больш, чым сярэдні заробак у Беларусі.

Падобная пенсія і ў Чэхіі. У першай палове мінулага года тамтэйшым старым дзяржава плаціла па $550.

Але ў большасці краін Еўрасаюза — гэта толькі частка даходаў. Мясцовыя жыхары карыстаюцца паслугамі прыватных пенсійных фондаў і ў рэальнасці атрымліваюць нашмат больш.

**Ягор Марціновіч**



Сяргей Гудзілін




**Самыя багатыя...**

Максімальна магчымая пенсія па ўзросце ў Беларусі складае 6 434 тысячы рублёў. Столькі атрымліваюць штомесяц былыя шахцёры, якія маюць стаж працы пад зямлёй не менш за 25 гадоў.

**...і самы бедны**

Былому старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу дзяржава плаціць па 3200 рублёў. Яго ная пажыццёвая пенсія была прызначаная яшчэ ў 1996-м, але з таго часу не індэксуецца.

# Чыстыя страты — $3 мільярды

Для **беларускіх прадпрыемстваў** студзень выдаўся правальным.

Белстат апублікаваў шакуючыя дадзеныя пра фінансавыя вынікі працы беларускіх кампаній у студзені 2015.

Чыстыя страты амаль 8000 кампаній краіны склалі за месяц 42,9 трыльёна рублёў — гэта $2,98 мільярда ў эквіваленце. У справаздачу не ўваходзяць банкі, страхавыя і бюджэтныя арганізацыі, а таксама дробны бізнэс.

Стратнымі былі 28,6% кампаній. Кожная з іх у сярэднім згубіла за студзень па $1,7 мільёна.

Для параўнання, год таму беларускія кампаніі мелі чысты прыбытак памерам каля $260 мільёнаў.

«Ільвіная доля — страты на курсавой розніцы, — тлумачыць эканаміст Сяргей Чалы. — Гэта бухгалтарскія страты, якія можна будзе спісаць цягам двух гадоў у любым графіку, змяншаючы прыбытак».

Гэта вынік вонкавых умоваў, а не гаспадарання, падкрэслівае эканаміст.

**ЯМ, МБ**

# Чаго чакаць укладчыкам «Дэльта Банка»?

**Нацбанк прызначыў** часовую адміністрацыю.

«Дэльта Банк» сутыкнуўся з сур'ёзнымі фінансавымі праблемамі. Нацбанк прызначыў антыкрызіснага кіраўніка, але незразумела, ці здолее той уратаваць структуру ад магчымага банкруцтва.

Беларускі «Дэльта Банк» — адзін з актываў украінскага мільянера Мікалая Лагуна. 25% акцый належаць асабіста яму, рэштай валодае галандскі холдынг, уласнікам якога, зноў-такі, з'яўляецца Лагун. Апроч таго, украінец мае дачыненне да сеткі крамаў «Родная старонка», а таксама будаўніцтва катэджаў і гольф-клуба «Грынвіч» пад Мінскам.

Украінскі крызіс балюча ўдарыў па Лагуну. Ягоны «Дэльта Банк» летась уваходзіў у пяцёрку найбуйнейшых банкаў Украіны, але цяпер аб'яўлены неплацежаздольным. Укладчыкам аддаюць толькі долю ад дэпазітаў, юрасобы не атрымаюць нічога.

Што ж здарылася з беларускім банкам? Па стане на 1 кастрычніка 2014 ягоныя актывы складалі 3,6 трыльёна рублёў, а абавязальніцтвы — 3,2 трыльёна.

«Дэльта Банк» быў арыентаваны на выдачу спажывецкіх крэдытаў пад высокія працэнты наўпрост у крамах. Банк супрацоўнічаў з «Электрасілай», «Каронай Тэхна», «Еўрасеткай». Адначасова выстаўляліся, бадай, самыя выгадныя ў краіне прапановы па дэпазітах.

Пасля дэвальвацыі ў снежні 2014 «Дэльта Банк» прыпыніў выдачу крэдытаў. А каб прыцягнуць грошы, увёў агромністыя стаўкі па ўкладах. Рублёвыя даходзілі да 56% гадавых, а валютныя — да 9%.

Каб пацвердзіць сваю саліднасць, у пачатку сакавіка банк запусціў «качку»: маўляў, падпісана пагадненне з галандскім інвестарам на суму 500 мільёнаў еўра. Паводле інфармацыі tut.by, беларускія спецслужбы затрымалі прадстаўнікоў таго «інвестара» па падазрэнні ў правядзенні незаконных фінансавых аперацый.

А Нацбанк прызначыў у «Дэльта Банк» часовую адміністрацыю на чале з Аляксандрам Пядзько, выканаўчым дырэктарам Беларускага аб'яднання спецыялістаў па антыкрызісным кіраванні і банкруцтве.

Якія абмежаванні ўведзеныя на гэты час? Забаронена заключэнне новых дэпазітаў, а таксама прыём дадатковых унёскаў па старых дамовах. Рахункі юрыдычных асобаў замарожаныя, кліенты паведамляюць, што не могуць нават правесці падатковыя плацяжы. Укладчыкі могуць забраць з дэпазіта не больш за 150 мільёнаў рублёў (10 тысяч даляраў ці еўра) за дзень па папярэдняй замове. З картак можна траціць не больш за $400 за суткі.

«Выконваючы свае абавязацельствы перад кліентамі, банк у першую чаргу робіць разлікі з усімі кліентамі — фізічнымі асобамі. Пасля выканання абавязацельстваў перад фізічнымі асобамі, банк будзе выконваць абавязацельствы перад кліентамі — суб'ектамі гаспадарання», — гаворыцца ў паведамленні банка.

Паводле беларускага заканадаўства, дзяржава гарантуе 100%-ае вяртанне сумы дэпазіта нават у выпадку банкруцтва банка. Праўда, працэнты аддаваць у такім выпадку ніхто не будзе.

**ЯМ**

**Пра старыя крэдыты не забудуць**

Ці давядзецца вяртаць крэдыт на куплю тэлевізара, аформлены ў «Дэльта Банку», запытаўся чытач «НН». Маўляў, калі банк збанкрутуе, то і вяртаць грошы не будзе каму. Аднак у рэальнасці, нават калі сітуацыя дойдзе да банкруцтва, грошы з крэдытораў будуць спаганяць. Плацёжныя рэквізіты зменяцца, але сума застанецца ранейшай.

## Сцісла

**З вітрын знікнуць цыгарэты**

Ад 1 ліпеня 2015 у крамах будзе забаронена выкладка на вітрынах тытунёвых вырабаў і іх узораў. Можна будзе толькі павесіць пералік назваў цыгарэт з пазначэннем цаны. Антытытунёвая кампанія дае плён: летась продаж цыгарэт скараціўся амаль на 10%.

**Сукупны доўг Беларусі перавысіў $40 мільярдаў**

Валавы замежны доўг краіны летась павялічыўся на $440 мільёнаў. Па стане на пачатак года ён дасягнуў $40,06 мільярда. Лічба ўключае ў сябе доўг органаў дзяржаўнага кіравання, органаў грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі. У разліку на кожнага жыхара краіны доўг цяпер складае $4225.

**Дэвальвацыя дайшла да Таджыкістана**

Чарговай ахвярай расійскага крызісу стала эканоміка Таджыкістана. Курс даляра да мясцовай валюты, самані, вырас на 15%. У краіне забароненыя продаж даляраў у абменніках.

**ЯМ**

# Кароткае падарожжа ў свет

**Вялікі красовер плаўна вырульвае на трасу і імчыць у бок Віцебска. Старэйшы, 28-гадовы Сяргей Ісакаў, які заняў месца побач з кіроўцам, адзявае вялікія навушнікі. Малодшы, 21-гадовы Валодзя Залаты — ён сядзіць ззаду — маленькія, крапелькі. Амаль усю дарогу да свайго былога дома, Багушэўскага інтэрната для людзей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, яны будуць слухаць музыку. У Багушэўск хлопцы едуць па справах: ім трэба наведаць сваіх, забраць сякія-такія рэчы і вырашыць некалькі пытанняў. Хаця, канечне, пытанні вырашаць будзе іх сённяшні кіроўца і працадаўца Дзяніс Орліс. Ці, як называюць яго самі хлопцы, Маркавіч.**



**Дзяніс Орліс (справа) прыняў на працу інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця (злева — адзін з іх).**

НАСТАСЯ ХРАЛОВІЧ

Дзяніс Маркавіч Орліс — кіраўнік невялікай будаўнічай фірмы ў Мінску і гаспадар аграсядзібы. Некалькі гадоў таму ён разам са сваім кампаньёнам па бізнэсе танна набыў недабудаваны дом у Ратамцы. Паціху будынак прывялі ў парадак. Вырашылі выкарыстоўваць яго як аграсядзібу, невялікі гатэль. Вядома ж, у такім месцы патрэбныя памочнікі.

Тое, што да яго трапілі менавіта інваліды, сам Орліс называе збегам абставінаў. Знаёмая расказала, што ў Багушэўску існуе праграма па сацыялізацыі інвалідаў. Але Орліс не чакаў, што будзе першым, хто возьме хлопцаў да сябе. Узяў спачатку на месяц, паспрабаваць. Потым — фактычна на пастаянную працу.

На сядзібе хлопцы выконваюць разнастайную працу, у асноўным дапамагаюць гаспадарыць. Але, напрыклад, Валодзя паціху вучыцца класці плітку. З Сяргеем нядаўна мянялі сантэхніку ў адной з мінскіх кватэр Орліса. Фіксаванага заробку няма, бо фактычна хлопцы не аформленыя. Таму Дзяніс проста выдае ім кішэнныя грошы, 2—3 мільёны на месяц. Для іх гэта вялікія сумы — пенсія ўсяго толькі 1,3 мільёна, і на мінулых працах заробак рэдка яе перавышаў. Плюс не паўсюдна іх і бралі: і ў Сяргея, і ў Валодзі 2-я група інваліднасці, яны могуць выконваць толькі даволі простую працу. Сяргей — эпілептык, у Валодзі слабыя сэрца і зрок.

Але Дзяніса гэта не спалохала. Нашто яму, занятаму чалавеку і бацьку чатырох дзяцей ад двух шлюбаў, дадатковы клопат, ён і сам не ведае. Кажа, што калі ёсць жаданне, то проста трэба рабіць. А калі жаданне супадае з магчымасцямі — рабіць канечне.

«Спачатку было цяжкавата, вядома, бо яны як вялікія дзеці. Нельга ўзяць такога чалавека, а потым яго адрачыся, кінуць, — кажа Дзяніс Маркавіч. — Да таго ж, няпроста было проста іх зразумець: чаму сумуюць, чаму хвалююцца, што маюць на ўвазе? Бо яны даволі закрытыя асобы».

Але цяпер з узаемаразуменнем ужо ўсё ў парадку. Орліс нават падумвае пашырыць штат супрацоўнікаў з інваліднасцю.

«Я б узяў пару. Хай бы жыла сям'я. Дзеці? Нічога страшнага, неяк дамо рады. У мяне сваіх чацвёра. Яшчэ мяне не палохаюць. Дапаможам», — пасміхаецца Дзяніс Маркавіч.

Хлопцам жыццё на сядзібе таксама падабаецца. У іх тут свой пакой, асобны душ, невялікая кухня. Пра інтэрнат кепскага не кажуць, але прызнаюцца, што «на волі» ўсё ж лепш. «Адчуваеш, што ты на свабодзе», — кажа Валодзя. Пра тое, што менавіта дзякуючы інтэрнату ён і «выйшаў на волю», хлопец не думае.

Багушэўскі дом-інтэрнат для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця знаходзіцца на беразе Серакаратнянскага возера, побач з Багушэўскам — невялікім мястэчкам у Віцебскай вобласці. Інтэрнат вялікі — у ім жыве больш за 260 чалавек. З іх каля сотні «ляжакоў» — тых, хто з ложка не падымаецца.

Хоць інтэрнат і называецца «дзіцячым», пацыентам можа быць ад 4 да 35 гадоў (старэйшых адпраўляюць у дарослыя установы для псіхахронікаў). Трапляюць сюды па-рознаму: напрыклад, у Сяргея памерлі бацькі. У Валодзі памёр бацька, а матулю пазбавілі бацькоўскіх правоў. Цяпер яна ўвогуле на «хіміі», адбывае тэрмін за ўхіленне ад аплаты аліментаў.



**У Валодзі мама на хіміі, тата загінуў. А самому хлопцу не свяціла нічога, акрамы чатырох сценаў інтэрната.**

Такія інтэрнаты існуюць па ўсёй краіне, але Багушэўскі ў сваім родзе ўнікальны. Менавіта тут першымі ў Беларусі заняліся праграмай сацыялізацыі сваіх пацыентаў. Па-другое, толькі ў гэтым інтэрнаце перспектыўныя хлопцы і дзяўчаты жывуць цалкам самастойна, у асобных катэджах самастойнага пражывання.

А пачалося ўсё ў 2011 годзе з дапамогай шведскай і ірландскай дабрачынных арганізацый. Еўрапейцы пабудавалі і абсталявалі два невялікія катэджы, запусцілі праграму працы па сацыялізацыі, і першыя 12 чалавек пераехалі з інтэрната ў новыя дамы. На сённяшні дзень 7 былых выхаванцаў змаглі аднавіць дзеяздольнасць і пачаць самастойнае жыццё ў грамадстве. Здавалася б, няшмат. Але ж іх нярэдка прыходзіцца вучыць самым элементарным рэчам: мыць адзенне, прыбіраць, лічыць грошы, купляць у краме.

«Чалавек, які ўсё жыццё жыве ў інтэрнаце, часта не ўмее элементарных рэчаў. Некаторыя не ведалі нават, як выглядаюць нязвараныя яшчэ грэцкія крупы, думалі, што гэта арэшкі, — распавядае Ірына Міронава, загадчыца аддзялення самастойнага пражывання. — Інтэрнатны прынцып фармуе ўтрыманскую пазіцыю. Змяніць гэта можна толькі працай і новымі ўмамі. Трэба прыцягваць чалавека да дзеяння. Бо калі калектыўнае выхаванне, то ён не разумее: хто я, які я, што я магу? А навошта гэта мне трэба?»

У дамах самастойнага пражывання з інвалідамі дзень і ноч жывуць інструктары, да якіх можна звярнуцца па дапамогу, але хлопцы і дзяўчаты самі гатуюць, прыбіраюць. Да таго ж, садзяць агарод, гадуюць кароў, свіней, курэй. Тое, што для большасці не самая лепшая праца, для іх — мэта і цяжкадасяжная мара. Адзін з хлопцаў, Слава, хоча быць афіцыянтам. 30-гадовая Алена з радасцю б пайшла на працу пакаёўкі. Праўда, і тут ёсць свае выняткі.

«Я хачу быць дызайнерам, — прызнаецца Андрэй. — Праўда, гэта цяжка ажыццявіць. Патрэбна ж вышэйшая адукацыя...»

«Усе хочуць трапіць на самастойна пражыванне. Але мы бяром па прынцыпе адэкватнасці, падрыхтоўкі, больш развітых, хто мае больш шанцаў на поспех. На ўсіх не хопіць месца, — кажа Ірына Міронава. — А так, па вялікім рахунку, працаваць жа можна з кожным чалавекам. Але патрэбныя капіталаўкладанні, бо гэта і абсталяванне, і супрацоўнікі».

Супрацоўнікаў у інтэрнаце агулам больш за 200 чалавек. Сярэдні заробак — 3,5—4 мільёны.

«У Багушэўску работы мала. Мэблевая фабрыка закрылася, кандытарскі завод закрыўся, лясная гаспадарка закрываецца, ільнозавод ў Цыпках — таксама, — тлумачыць псіхолаг Таццяна Уладзіміраўна. — Сёння мясцовыя школы, бальніца і наш дом-інтэрнат фактычна сталі горадаўтваральнымі прадпрыемствамі».

Таму і цякучкі кадраў у інтэрнаце няма. Але людзі не проста трымаюцца за працу, а яшчэ і добра яе выконваюць. «Эксперымент» з сацыялізацыяй нават паўплываў на заканадаўства — пасля Багушэўска гэткая праграма была прынятая на афіцыйным узроўні і пачала дзейнічаць у астатніх інтэрнатах краіны.

«Мы павінны навучыцца прымаць інвалідаў у грамадства, а не ізаляваць, як гэта ў нас часцей за ўсё прынята, — упэўненая Міронава. — У Польшчы, напрыклад, стымулююць прадпрыемствы ствараць працоўныя месцы для інвалідаў, каб яны працавалі побач са звычайнымі людзьмі».

Тым часам Дзяніс Орліс расказвае дырэктару інтэрната, Віктару Сувораву, пра сваю ідэю працаўладкавання яго выхаванцаў.

«На базе аграсядзібы можна збудаваць турыстычны дамок. Жыць побач з ім і абслугоўваць яго будуць некалькі чалавек з ліку інвалідаў. Прыбыткі можна выкарыстаць на будоўлю яшчэ аднаго такога дома. І ўзяць туды яшчэ некалькі чалавек з інтэрната. І гэтак далей», — распавядае Орліс.

Да таго ж, мяркуе ён, можна стварыць акцыянернае таварыства, невялікую долю ў якім атрымае кожны з супрацоўнікаў-інвалідаў.

Ідэя неблагая. Абодва пагаджаюцца заняцца ёй кожны са свай-



УЛАД ШВЯДОВІЧ

**Ірына Міронава верыць, што інвалідаў можна рабіць самастойнымі і карыснымі грамадству. За яе спінай — катэджы, у якіх людзей з абмежаваннямі вучаць самастойнасці. Збудавалі іх еўрапейцы.**

# тых, хто розніцца ад нас з вамі

го боку: Орліс можа знайсці дом ці ўчастак пад Мінскам, дзе можна ўладкаваць такі турыстычны комплекс, а Сувораў абмяркуе яе з дабрачыннымі арганізацыямі, бо грашовая падтрымка трэба будзе.

Затым Дзяніс і Ірына Міронава едуць з Валодзем у яго родную вёску Задуброўе вырашаць пытанне з прапіскай: каб аформіць хлопца на працу, трэба выпісаць яго з інтэрната. А выпісваць няма куды — Орліс асцерагаецца рэгістраваць Валодзю на сваёй аграсядзібе: «А калі мне яе прадаць прыйдзецца, то куды яго? На вуліцу?». Таму хіба толькі сваякі пагодзяцца.

Ехаць адносна блізка, прыкладна 90 кіламетраў ад Багушэўска. Папярэдзіць сваякоў пра візіт немагчыма — мабільнік, на якім былі запісаныя ўсе нумары, Валодзя даўно ўжо згубіў. Таму будзе сюрпрыз.

У Задуброўі Валодзя першым чынам цягне ўсіх пагладзець сваю хату. Але ад хаты засталіся толькі абвугленыя сцены — яна згарэла якраз перад Новым годам. Хлопец пра гэта ці то забыўся, ці то не ведаў. Бачыць вуголле былога дому яму вельмі цяжка.

«Усё згарэла, зусім усё», — прыгаворвае Валодзя, калупаючыся ў абгарэлай шафе. Там ён знаходзіць некаторыя дакументы: матчына і братава пасведчанні аб нараджэнні, старую, яшчэ савецкую, ашчадную кніжку. Агонь іх толькі трошкі абпаліў. Валодзя разам з Дзянісам вырашаюць забраць паперы з сабой, можа, калі спатрэбяцца. Валодзя яшчэ знаходзіць у шафе сваю старую коўдру. Яе таксама вырашае забраць.

Забягае да суседзяў. Там жыве ягоная сяброўка, якую сам Валодзя называе сваёй дзяўчынай (ці ведае аб гэтым сама яна, удакладняць ніхто не рашыўся). Пакуль парачка гутарыць, маці дзяўчыны распавядае пра вясковае жыццёбыццё.

«Вёска паціху памірае. Школа ўжо зачынілася, дзіцячаму садку нядоўга засталося. Жыць няпроста, канечне. Але ў нас гаспадарка: куры, трусы. Свіней не трымаем: дорага. Дый хваробы гэтыя, ізноў жа — калі тая чума была і ў суседняй вёсцы знішчалі свіней, адзін мужык нават павесіўся. У яго вялікае пагалоўе было».

Да Валодзі яна ставіцца добра.

«Я яго ж даўно ведаю. Ён і дапамагаў мне, кароўку пасвіў. Калі трапіў у інтэрнат, то пісаў, званіў — прасіўся, каб я яго забрала адтуль. Але што ж я магла зрабіць?»

Потым — у госці да Валодзевай бабулі. Там, акрамя старой, якая з цяжкасцю стаіць на мыліцах, якраз знаходзяцца і яе дзеці: Валодзевы дзядзька і цётка. Пасля кароткага знаёмства цётка Каця пачынае гучна скардзіцца: як «Ганна» выкупіла мясцовую птушкаферму, большую частку заробку пачалі выдаваць прадукцыяй.

«500 тысяч на рукі, астатняе — курамі. А можа, я не хачу тых курэй! Можа, я ліверкі хачу!» — усклікае яна.

Бабуля запрашае ўсіх на чай, але няма калі — яшчэ трэба адвезці Ірыну Міронаву ў Багушэўск, затым вярнуцца ў Мінск, у Ратамку. Таму Ірына Уладзіміраўна разам з Дзянісам тлумачаць сваякам хлопца неабходнасць яго прапісаць. Тыя пагаджаюцца дапамагчы.

Сам Валодзя тым часам заняты — раздае падарункі. Іх ён назапасіў для кожнага. Бабуля і цётка Каця атрымліваюць каробку цукерак і бутэльку шампанскага, дзядзька — mp3-цюнар у машыну, а стрыечны брат — вялікі ліхтар з убудаваным радыё.



Коўдра і абгарэлыя дакументы — усё, што засталося небараку Валодзю.

Улад Швядовіч

«Я тады зламаў, сказаў, што новы куплю — і вось, калі ласка!» — кажа брату Валодзя.

Сваякі вельмі радыя прыезду хлопца, нават прапануюць яму застацца. Але на пытанне, чаму такая прапанова не прагучала на некалькі год раней, кожны адказвае па-рознаму. Бабуля прызнаецца: пабаялася, што з хлопцам не справіцца. Дзядзька хмыкае ў вусы і кажа: «Калі яго бацька быў яшчэ жывы, мы думалі яго забраць... А потым... Неяк не вырашылі пытання...»

Часу сапраўды няшмат. Валодзя развітваецца са сваякамі: абдымкі, фотаздымкі, абяцанні неўзабаве прыехаць яшчэ раз. «Вы толькі не біце там яго», — ціхенька просіць у Дзяніса бабуля.

На зваротным шляху Валодзя шмат размаўляе. Вандроўка атрымалася неадназначная: з аднаго боку, той згарэлы дом даўся яму няпроста, а з іншага — хлопец задаволены сустрэчай са сваёю раднёй. Таму спачатку ён успамінае, што ў доме згарэла («всеў на сцяне залаты крыжык... а ў шафе мой касцюм быў шлюбны...»), а потым бярэцца планаваць, як будзе дапамагаць бабулі. Нават пытаецца ў Дзяніса: «Маркавіч, а што, калі я буду некалькі тыдняў у цябе працаваць, а некалькі тыдняў тут праводзіць, у вёсцы?»

Дзяніс пасміхаецца і рэкамендуе яму не спяшацца прымаць рашэнні. Але Валодзя ўжо размаўляе: «Я ж Залаты! Нездарма ж такое прозвішча? Значыць, я павінен нешта рабіць! Зязць! Свяціць!»

Насамрэч, ён даўно ўжо свеціць — нязыркім, але цёплым святлом. Яго ў Валодзі з лішкам — на ўсіх хопіць. Пытанне толькі ў тым, ці спатрэбіцца гэтае святло нарэшце хоць камунебудзь.

**Улад Швядовіч, Багушэўск — Задуброўе — Мінск**

# Асцярожна, дзверы зачыняюцца

Як **высяляюць людзей**, якія жывуць на маршруце будучага метро.

Амаль тры гады сям'я Брэляў змагаецца з КУП «Дырэкцыя па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна». Іх дом стаіць на самым ускрайку катлавана, у якім будуюць станцыю «Вакзальная» з трэцяй лініі метро. Але Брэлі ўпарта не жадаюць адсяляцца, бо іх не задаволіла прапанаванае жыллё.

У зялёным драўляным дамку пасярод будоўлі, адзіным, што застаўся ад мясцовага прыватнага сектара, прапісана шэсць чалавек: Іван і Наталля, трое іх малых сыноў і бацька Івана.

У 2012 яны атрымалі рашэнне аб высяленні, расказвае Іван. Ім выдзелілі трохпакаёвую кватэру, але ацэнку маёмасці не правялі. У той кватэры на кожнага з членаў сям'і і далёка не было належных 15 м². Да таго ж, пакуль прымалася рашэнне, якую кватэру ім даваць, у Брэляў нарадзіўся яшчэ адзін сын. Але налічваць метры на яго не захацелі.

«Мы адмовіліся з'язджаць, на нас падалі ў суд. Суддзя аказалася прынцыповай і вырашыла пытанне на нашу карысць. Пасля яе рашэнне адмянілі і справу перадалі новай суддзі. Тая вырашыла пасвойму, — расказвае Іван Брэль. — Мы звярнуліся ва ўрад. Там пацвердзілі, што мы маем рацыю, метраж нам далі няправільны». Але суд праігнараваў гэта. Тады Брэлі звярнуліся ў пракуратуру. Пракурор падаў пратэст, а яму тыя ж суддзі адмовілі. Зараз надзея толькі на Генеральную пракуратуру, адказ адтуль яшчэ не прыйшоў.

«Справа не ў тым, што мы не хочам з'язджаць, — тлумачыць сям'я сваю пазіцыю. — Мы хочам, каб усё было паводле закона. Павінна быць адэкватнае стаўленне да людзей. Мы хочам раўназначны метраж паводле прэзідэнцкага ўказа».

Былыя суседзі хоць і былі незадаволеныя атрыманым жыллём, параз'язджаліся. Жыццё фактычна на будаўнічай пляцоўцы, канечне, прыносіць шмат клопату і самім Брэлям.

«Проста кагосьці засудзілі, кагосьці ўгаварылі... Толькі вось мы пакуль змагаемся, — кажа Іван. — Мы звычайныя грамадзяне. Не так шмат зарабляем. Дом — гэта ўсё, што мы маем».

11 сакавіка судовыя выканаўцы прыйшлі высяляць сям'ю, але справа ўпёрлася ў юрыдычны момант. Паміж днямі вынясення судовай пастановы аб высяленні сям'і і ўступлення яе ў законную моц у Брэляў нарадзіўся яшчэ трэці сын, які ў пастанове не ўзгадваецца і таму выселіць яго нельга. «Вы, вашая жонка і дзеці павінны сёння пакінуць дом. Мы заселім вас у кватэру на завулку Каржанеўскага», — ад пачатку настойвала судовая выканаўца. Але Іван Брэль не пагаджаўся. У выніку ўсе сышліся на тым, што судовую пастанову аб высяленні нельга выканаць, бо яна не ўлічвае ўсіх жыльцоў дома.



Іван і Наталля Брэлі з малодшым сынам.

Улад Швядовіч

Таму ў хаце разам з немаўлём засталася ягоная маці, але Іван, ягоныя два сыны і бацька ўсё ж павінны былі пакінуць памяшканне. Па словах Івана, цяпер яны будуць жыць «у сяброў», бо ехаць у кватэру, што прапаноўвае дзяржава, яны не збіраюцца. Аднак, не зважаючы на гэта, судовыя выканаўцы пастанавілі перавезці туды ўсе рэчы, пры гэтым ніякіх дакументаў на кватэру мужчына не атрымаў, рэгістрацыі там ён таксама не мае.

Відавочна, што кропка ў канфлікце не пастаўлена, наперадзе новы суд. Які, як спадзяецца сям'я Брэль, на гэты раз вырашыць кватэрнае пытанне на іх карысць, з выдзеленнем ім дзвюх кватэр плошчай больш за 90 м². У адной з іх спадзяецца жыць разам сям'я, раздзеленая приставамі.

**Улад Швядовіч, Арцём Гарбацэвіч**

# Стала вядома, што дапамагае лунацікам не ўразацца ў сцены

Навукоўцы з Нью-Ёркскага ўніверсітэта адказалі на пытанне, чаму людзі, якія пакутуюць на самнамбулізм, нават у несвядомым стане маюць выдатную каардынацыю і рэдка наносяць сабе траўмы.

На думку даследчыкаў, гэта адбываецца таму, што навігацыйныя клеткі ў мозгу застаюцца актыўныя незалежна ад таго, спіць або не спіць чалавек. Навукоўцы зрабілі такую выснову, вывучыўшы актыўнасць мозгу ў мышэй падчас глыбокага сну, вядомага як фаза хуткага руху вачэй (REM).

Аказалася, што ў гэты перыяд «сістэма навігацыі» мышэй працуе ў тым жа рэжыме, як і ў момант няспання. Падчас павольнага сну, пры якім актыўнасць мозгу значна зніжаецца, дзейнасць нейронаў вырастала ў 10 разоў, таму мышы «аглядаліся вакол сябе» нават больш старанна, чым калі яны не спалі.

«Даўно вядома, што ў сне мозг чалавека працягвае працаваць, — расказвае кіраўнік даследавання прафесар нейрабіялогіі Д'ёрдзь Бужакі. — Але цяпер мы даведаліся, як гэты працэс наладжаны адносна арыентацыі ў прасторы».

Трэба адзначыць, што вынікі навукоўцаў пацвярджаюць тэорыю «ўнутранай GPS» мозгу, стваральнікі якой у мінулым годзе атрымалі Нобелеўскую прэмію.

**Лявон Максюта**



Фотафакт



**Суперкубак у БАТЭ**

Барысаўскі БАТЭ ў серыі пасляматчавых пенальці перамог салігорскі «Шахцёр» у матчы за Суперкубак Беларусі. Гэта такі трафей, які перад пачаткам сезона разыгрываюць чэмпіён краіны і ўладальнік кубка. У БАТЭ ўсе тры пенальці адбіў брамнік Сяргей Чэрнік (на фота) — герой сустрэчы.

## Лідчук сцвярджае, што атрымаў два гады з адтэрміноўкай за лайкі парнаграфіі «УКантакце»

Сябра дапамог Аляксандру, слаба знаёмаму з інтэрнэтам, зарэгістравацца «УКантакце». Недасведчаны інтэрнаўт націскаў «падабайкі» пад ролікамі, якія праглядаў на чужых старонках. У лік такіх трапілі і парнаролікі.

Падсудны сцвярджае, што выпадкова націснуў «Мне падабаецца» пад парнаролікамі — такім чынам тыя трапілі на яго старонку.

Насамрэч ад націскання «УКантакце» на кнопку «Мне падабаецца» ролікі не з'явяцца на старонцы карыстальніка.

Каб з'явіліся, трэба націснуць ці на кнопку «Расказаць сябрам» ва ўсплываючым над «Мне падабаецца» акне, ці націснуць на суседнюю кнопку «Дадаць у мае відэазапісы». Іншы механізм дзейнічае на Facebook — там па націсканні «падабайкі» запіс з'яўляецца ў стужцы навін сяброў карыстальніка.

Сябра папярэдзіў Аляксандра аб крымінальнай адказнасці за распаўсюд порна, калі пабачыў ролікі на ягонай старонцы. Але было позна — анкету Аляксандра ўжо заўважылі эксперты. Аператыўнікі правялі ў кватэры лідчукаператрус і канфіскавалі сістэмны блок камп'ютара і ноўтбук.

**Аляксандр Арсёнаў**

## СМІ даведаліся пра смерць пасынка Бязрукава

Цела 25-гадовага Андрэя Ліванава, сына акцёраў Ігара Ліванава і Ірыны Бязрукавай, знойдзена ў яго кватэры, размешчанай на паўднёвым усходзе Масквы. Аб гэтым паведамляе тэлеканал LifeNews.

Ірына і яе муж Сяргей Бязрукаў знаходзіліся ў камандзіроўцы і некалькі дзён не маглі звязацца з Андрэем. Ён таксама не з'яўляўся ў тэатры, дзе ў апошні час працаваў адміністратарам. Наведаць маладога чалавека прыйшла дырэктар тэатра. Пасля таго, як дзверы ёй ніхто не адчыніў, было выраашана выклікаць МНС.

Ратавальнікі выявілі ў кватэры цела Ліванава без знешніх прыкмет гвалтоўнай смерці. Дактары хуткай дапамогі канстатавалі смерць.

Яшчэ да ад'езду маці сын скардзіўся на высокую тэмпературу і агульную нядужасць.

Шлюб бацькоў Андрэя Ліванава распаўся, калі яму было 11 гадоў. З тых часоў ён жыў з маці і айчымам, акцёрам Сяргеем Бязрукавым. Школьнікам Ліванаў граў у мюзікле «Норд-Ост».

**Сямён Цыбульскі**



Жыццёвае

## Вольга і Марына,
### або Самыя спагадлівыя людзі жывуць на Віцебшчыне



Піша **Сяргей Макарэвіч**.

Дзяўчына, з якой жылі па суседстве, стала жабрачкай. Мы выпадкова сустрэліся праз 13 гадоў...

Я ехаў з Мінска ў Вілейку ў купэйным вагоне. У Маладзечне падсела дзяўчына.

«Прывет, маё імя Марына. А тваё?»

Яе твар падаўся знаёмым.

Марына спрабавала загаварыць. І не звяртала ўвагі, што я без ахвоты адказваў ёй.

«Ты не ведаеш, тут кіпень наліваюць?» — «Калі купіш аднаразовы кубачак, чаму не нальюць». — «А шклянак ужо няма? Ты каву купляў тут?» — «Тут». — «Я хіба дурная тут купляць — дорага. Купіла два пакецікі ў краме. Люблю каву».

«У Маладзечне людзі кепскія, — працягвала дзяўчына. — Збірала грошы на лячэнне — дык толькі 100 тысяч агулам ахвяравалі ў гандлёвым цэнтры «Модуль», і яшчэ па горадзе столькі ж».

«Ведаеш, а самыя спагадлівыя людзі жывуць на Віцебшчыне — Полацк, Глыбокае. Я там за дзень неяк сабрала мільён шэсцьсот тысяч... На лекі патрэбны грошы. Пенсія ў мяне невялікая — 1,7 мільёна. У мяне парок сэрца. А лекі дарагія».

Марына была апранута нябедна. Але і без лішняга.

Зазвінеў яе мабільнік. «Сястра, я села ў цягнік да Полацка, там пераначаую ў зале чакання. Воля, у мяне батарэя зараз разрадзіцца, буду адключана».

Ведаў я адну Марыну, і сястра ў яе была Вольга.

«А дызеля там ніякага не было?» — пачую з трубкі голас сястры.

«Не, толькі заўтра раніцай», — зманіла Марына.

Дызель быў, але позні.

«Што мне, ноч ехаць? Хоць мне, як інваліду, на электрычцы і дызелі праезд бясплатны», — гэта ўжо да мяне.

«Ты не ведаеш, платная зала чакання колькі каштуе ў Полацку? Два гады таму была 25 тысяч. А яшчэ там па пашпарце пускалі толькі. А ў мяне такі пакоцаны. А то давядзецца на вакзале начаваць... Табе колькі гадоў? Мне 24, хутка 25. Трэ' будзе мяняць пашпарт. Трэба ехаць у Столінскі раён...»

І я зразумеў, што ведаю гэтую Марыну. Толькі памятаю яе 11-гадовым дзяўчом. Мая бабуля жыла ў Столінскім раёне. Пасёлак быў пітушчы. Была там адна жанчына, што хадзіла ўвесь час са сваёй малодшай дачкой. Абедзве былі худыя, нават ссохлыя. Жылі бедна, маці выпівала. І была ў той жанчыны старэйшая дачка ад першага шлюбу — прыгажуня Вольга...

«А ты куды едзеш?» — вырашыў даведацца я пра Вольгу, у якую 13 гадоў таму быў пападлеткаваму закаханы. — «У Полацк». — «А дзе сястра жыве?» — «У Мінску».

Так, гэта тое колісь худое дзяўчо цяпер сядзела перада мной. Тады, калі яна была падлеткам, з ёй ніхто не хацеў гуляць. Бо дзіўна сябе паводзіла, нібы з псіхічнымі адхіленнямі была. І ўвесь час хадзіла за маці.

А ехала яна з Маладзечна ў Полацк. Прасіла міласціну тут, а ў суботу будзе збіраць грошы там. Відаць, старэйшая сястра пасылае яе.

...Вольга ж у 18 гадоў «заляцела». Як казалі, спакусіла нейкага сталічнага студэнта. Яна нават у такім маладым узросце шмат мужчын паспела пабачыць... Але дзякуй Богу, нарадзіла дзіця, стала мамай.

«Я неяк кватэру ледзь не спаліла, чуеш. Паставіла пластыкавую місу на пліту, наліла вады і падпаліла — хацела адварыць сасіскі... Добра, што пляменнік быў дома», — працягвала па-дзіцячаму наіўна расказваць мне Марына. Сумневаў не было, што яна хворая.

...Данілам назвала сына Вольга. Яму цяпер гадоў 12. Хутка бяжыць час.

«Я добра паела сёння. Узяла двайную порцыю пюрэ, дзве порцыі баршчу, кефір. Аддала каля 20 тысяч. А пасля яшчэ ўзяла торцік — 11500. Вось і аддала за ўсё каля трыццаці тысяч».

...Марына гаварыла пра ўсё. Яна не пазнала мяне. Не раскрыў свайго ўспаміну і я.

Вось такая выпадковая сустрэча, такія лёсы людскія.

# Рэцэпты хутка перастануць выдаваць на рукі

У міністра Васіля Жарко пацікавіліся аб **неадназначнай пастанове** №66 Міністэрства аховы здароўя аб парадку водпуску рэцэптурных прэпаратаў.

Жарко ўхваліў вынікі пастановы, сказаўшы, што плынь людзей у аптэкі знізілася, а «запасы антыбіётыкаў больш не ляжаць у шафах»: «Не фармацэўты, знаёмыя і інтэрнэт мусяць займацца лячэннем, а ўрач. Галава можа балець ад стомленасці, ад стрэсу, ад мігрэні, а можа быць перадынсультны стан, а можа быць пухліна».

Жарко паведаміў, што «99% дзяржаўных і камерцыйных аптэк выконваюць пастанову сумленна». Аднак за парушэнні парадку водпуску лекаў толькі ў 2015 годзе Мінздароўя прыпыніла працу каля 20 аптэк. Міністр таксама заявіў, што адной з галоўных задач Міністэрства аховы здароўя — зрабіць лекі даступнымі для беларусаў.

У 2014 годзе доля беларускіх прэпаратаў, закупленых Міністэрствам аховы здароўя, склала 37%. Аднак Лукашэнка паставіў перад міністэрствам задачу давесці гэты паказчык да 50%, на што і будзе накіравана праца 28 беларускіх фармацэўтычных прадпрыемстваў. Толькі ў гэтым годзе плануецца выпусціць больш за 100 найменняў лекаў беларускай вытворчасці, а вялікі акцэнт будзе зроблены на вырабе айчынных анкапрэпаратаў.

Пры гэтым Жарко запэўніў, што выбар вытворцы застаецца за пацыентам: «Калі хтосьці думае, што мы прымушаем дактароў выпісваць беларускае, — гэта не так. Калі для бясплатнага рэцэпта, чаму б не выпісаць беларускае, калі ёсць беларускі прэпарат належнай якасці, а яны ўсе якасныя. У аптэках не могуць прадавацца няякасныя лекі: яны ўсе, як і беларускія, так і замежныя, правяраюцца ў лабараторыі аднолькава. Але калі ў чалавека ёсць паказанні ці ён усё жыццё прымае нейкі замежны прэпарат, яму выпішуць замежны прэпарат».

Жарко паведаміў, што плануецца да канца года завяршыць адзін з этапаў інфарматызацыі паліклінік, які дапаможа разгрузіць установы.

У Мінску запусцяць электронныя рэцэпты, запіс праз інтэрнэт ва ўсіх паліклініках. У астатніх рэгіёнах электронныя рэцэпты будуць уведзены, калі фінансаванне будзе выдзелена ў поўным памеры. Электронны рэцэпт будзе выпісвацца доктарам, і яго ў аптэцы будуць знаходзіць па базе. А вось электронныя карты можна будзе чакаць толькі ў наступным годзе.

Паводле міністра аховы здароўя Васіля Жарко, па ўзроўні даступнасці медыцынскай дапамогі Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце, дзелячы яго з Брунэем і Канадай.

Кірыла Хілько




## Мінск названы 189-м горадам свету па якасці жыцця

Беларуская сталіца размясцілася ў рэйтынгу між сталіцамі **Руанды і Пакістана**.

У чарговым штогадовым рэйтынгу Mercer Quality of Living Мінск заняў па якасці жыцця 189 месца з 220 даследаваных гарадоў.

Найлепшымі па якасці жыцця прызнаныя Вена (Аўстрыя), Цюрых (Швейцарыя), Окленд (Новая Зеландыя), Мюнхен (Германія) і Ванкувер (Канада).

З суседзяў Беларусі найвышэйшыя пазіцыі маюць Вільня і Варшава (дзеляць 79 месца), Талін і Рыга (88 і 89 месца), Уроцлаў (100), Масква (167), Санкт-Пецярбург (174), Кіеў (176).

Мінск абагнала сталіца Албаніі Тырана (180) і сталіца Венесуэлы Каракас (179), але ў беларускай сталіцы жыццё крыху якаснейшае, чым у сталіцы Кубы Гаване (193) і сталіцы Грузіі Тбілісі (194).

Пры складанні рэйтынгу разглядаецца 39 фактараў, сярод якіх жытло, палітычная і сацыяльная атмасфера, медыцына, адукацыя, культура, транспарт, адпачынак, клімат і прывабнасць для турыстаў.

Аляксандр Арсёнаў



## 16-гадовы футбаліст з Баранавічаў, які перайшоў у іспанскую лігу: «Гэта крута!»

Яшчэ адзін беларус нядаўна папоўніў шэрагі замежнай каманды — гэта 16-гадовы ўраджэнец Баранавічаў Міраслаў Хлебасолаў, якога **ўгледзелі агенты** іспанскага «Левантэ».



Хлопец з дзяцінства гуляе ў футбол і паходзіць са спартовай сям'і: ягоны бацька — дырэктар ФК «Баранавічы», а брат таксама футбаліст.

«Наша Ніва» пагутарыла з маладым талентам. Аднак Міраслаў адразу папярэдзіў, што толькі нядаўна прыляцеў з першых збораў, якія цягнуліся месяц, таму шмат расказаць ён не можа.

«Я візу новую зрабліо і зноў паеду ў Іспанію, — расказаў Міраслаў. — У Баранавічы прыехаў ненадоўга — паспею хіба што з сябрамі пабачыцца. А што да «Левантэ», то гуляць за асноўны склад я яшчэ не магу, бо мне толькі 16 гадоў, таму буду ў дублі да паўналецця. Можна сказаць так: гэты час я буду вучыцца гуляць на пазіцыі нападніка так, каб адпавядаць узроўню іспанскай лігі».

Па словах падлетка, у Іспаніі яго ўсё задавальняе, а найгалоўнейшая праблема — гэта мова.

«Я па-іспанску амаль не гавару, — прызнаўся Міраслаў, — аднак я мушу вывучыць іспанскую, зрэшты, як мне падаецца, яна не вельмі цяжкая».

Хлопец таксама падкрэсліў, што грошы ён будзе атрымліваць невялікія.

«Колькі дакладна мне будуць плаціць, я не ведаю яшчэ, але казаць аб тысячах не выпадае, — кажа Міраслаў. — Што датычыць жытла, то таксама я яшчэ дакладна не ведаю, дзе мяне паселяць. Можа, гэта будзе гатэль ці яшчэ што — без даху на галавою не застануся дакладна, там усё сур'ёзна».

Аб сваіх першых уражаннях ад іспанскай каманды юнак расказаў сцісла, але не хаваючы захаплення.

«Чэмпіянат Іспаніі — гэта чэмпіянат Іспаніі. Якія яшчэ патрэбны словы? Гэта нават не расійская ліга, куды я раней прагнуў патрапіць. Асабліва мне падабаецца тое, што мы тут трэніруемся ўсе разам — і дзеці, і дарослыя. Рэальныя іспанскія зоркі могуць прыйсці да нас у раздзявалку, папіць з намі кавы, пагутарыць, падказаць штосьці. Гэта вельмі крута!» — канстатаваў Міраслаў.

Арцём Гарбацэвіч

Кіно

## Сусвет Стывена Хокінга

Тэорыя ўсяго
Жанр: біяграфічны, драма, меладрама
Рэжысёр: Джэймс Марш
У ролях: Эдзі Рэдмэйн, Фелісіці Джонс, Чарлі Кокс, Дэвід Т'юліс, Эмілі Уотсан, Максін Пік, Сайман Мак-Берні, Эбігел Крутэндэн, Гары Ллойд.
Вялікабрытанія, 123 хв.
Адзнака: 8

Сюжэт стужкі заснаваны на кнізе Джэйн Хокінг Travelling to Infinity: My life with Stephen («Падарожжа ў бясконцасць: Маё жыццё са Стывенам»), былой жонкі сусветна вядомага фізіка Стывена Хокінга.

Гісторыя пачынаецца са знаёмства Стывена і Джэйн падчас вучобы ў Кембрыджскім універсітэце, куды хлопец прыязджае, каб напісаць доктарскую.

Адразу пасля знаёмства ў Стывена праяўляецца хвароба — латэральны аміятрафічны склероз, які вядзе да паступовай атрафіі цягліцаў. Дактары прагназуюць два гады жыцця, але нягледзячы на гэта Стывен і Джэйн бяруць шлюб. Джэйн чакаюць доўгія гады клопатаў пра хворага мужа, стан якога пагаршаецца штогод, таксама яна клапоціцца пра траіх дзяцей.

Баёпік, зняты пры жыцці папулярызатара навукі, чалавека з незвычайным лёсам і аднаго з самых вядомых брытанцаў, прынёс выканаўцу галоўнай ролі Эдзі Рэдмэйну «Оскар-2015» і «Залаты Глобус — 2015» за найлепшую мужчынскую ролю. А сам Стывен даслаў рэжысёру Джэймсу Маршу ліст, у якім расказаў, што ў некаторых момантах яму здавалася: ён бачыць на экране самога сябе.

Хокінг пазычыў для здымак голас, які агучвае яго словы (навукоўца страціў магчымасць размаўляць самастойна), а таксама медаль Свабоды і доктарскую дысертацыю.

Асноўны сюжэт фільма расказвае пра асабістае жыццё Хокінга і Джэйн да моманту, калі той, ужо вымушаны карыстацца інвалідным вазком і сінтэзатарам мовы, пакідае яе дзеля іншай жанчыны.




Вядома, для масава гледача будуць папулярна выкладзеныя і прарыўная тэорыя чорных дзірак, і рэлігійныя перакананні, і погляды на сусвет. Але сапраўднае захапленне выклікае імкненне фізіка вынайсці ўніверсальнае ўраўненне, якое б аб'ядвала квантавую тэорыю і тэорыю Эйнштэйна і здаровы жыццёвы гумар навукоўцы.

Цяпер Стывену Хокінгу 73 гады. Ён працягвае навуковую дзейнасць і выданне папулярных кніг, у тым ліку для дзяцей.

Настасся Уласава

# Адзін на стадыёне

У Капылі прайшоў пікет, прымеркаваны да Дня Канстытуцыі. Заяўніку пікета, актывісту аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Віктару Дашкевічу, улады дазволілі правесці адзіночны пікет... на бязлюдным стадыёне з 11 да 12 гадзін у суботу 14 сакавіка. Праўда, падтрымаць паплечніка прыехалі сябры БХД: Уладзімір і Святлана Шылы, Алесь Кутасаў, Вадзім Маеўскі, Сяргей Чарнавокі, Павел Пракаповіч, а таксама сябар БНФ Віталь Амяльковіч.

Падчас пікета Віктар Дашкевіч узгадаў палітвязняў, якія дагэтуль застаюцца за кратамі. Таксама на сваіх стэндах Віктар Дашкевіч размясціў фотаздымкі зніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Генадзя Карпенкі, Алега Бябеніна, Яні Паляковай, Валянціна Доўнара, Анатоля Майсені, Веранікі Чаркасавай.




**Дурні**

## Дрэвы нашы, дрэвы вашы

**У Еўропе паркі, скверы, прысады каля дамоў не абразаюць каля зямлі, а ў нас абразаюць так, каб прасвечвалася на кіламетр. Дый добра калі абразаюць. У нас столькі лесапалосаў, дрэваў у гарадах проста пад корань выразалі. У Еўропе стараюцца, каб зеляніна раздзяляла, каб вочы чалавека адпачывалі на ёй, каб чалавек у парку мог схавацца. У нас — іншая эстэтыка і філасофія. Цікавы допіс на гэтую тэму зрабіў Віктар Малышчыц з Мінска.**

Неяк супрацоўнік беларускай амбасады ў Берліне расказаў мне пра кіраўніка аднаго з раёнаў Мінска, які, убачыўшы адзін парк нямецкай сталіцы, сказаў: «У Мінску за такі парадак мяне выгналі б з працы». У той момант мы якраз праязджалі каля гэтага берлінскага парку. У ім была трава, невысокая, але і не выкашаная пад корань, было шмат духмяных кустоў (травень жа!) і, канечне, безліч розных дрэваў. Хацелася проста выйсці тут і застацца ў гэтым зялёным раі надоўга.

У такія моманты становіцца сапраўды крыўдна, што нашы мясцовыя чынушы ў якасці сінонімаў да словаў «парадак» і «прыгажосць» выбіраюць «асфальт», «бетон», «плітка», «поле».

Канечне, у яго роднай казарме роўны плац без кусціка і дрэва — паказчык парадку і зарука павышэння па службе.

У маім родным Глыбокім ужо амаль не засталося дрэў, затое цяпер можна любавацца фасадамі хібар сталінскіх часоў.

У Гародні на Савецкай вертыкальна стаяць засталіся хіба што нягеглыя ліхтарныя слупы, затое цяпер стэрыльна, як у рэанімацыі.

Кастрычніцкая плошча ў Мінску ці Плошча дзяржаўнага сцяга — вось апафеоз і ідэал беларускіх упарадкавальнікаў! Учора, ідучы ля Палаца Рэспублікі, сам нават жахнуўся ад маштабаў гэтага пліткавага раю.

Калі я бачу бетонныя астравы туркменскіх ці ўзбекскіх гарадоў, мне паняволі ўзгадваюцца нашы плошчы і вуліцы — такія ж бяскрайнія і пустыя. Але азіятам можна — у іх навокал і так стэпы і пустыні. У нас жа пустыні часцей у галавах.

**Віктар Малышчыц, Мінск**

Андрусь Храпавіцкі

## Рыцар за частаколам

Ніхто ніколі не хоча вайны. Відавочна.
Яна проста так сама сабой узнікае.
Яе нехта іншы навязвае нам завочна.
Яна выпадкова так да нас залятае.
Ніколі вайны на гэтай зямлі не будзе.
Была шматкротна. Вечны агонь шчэ палае.
Ты лічыш, змяніліся неяк да лепшага людзі?
Наркотык агрэсіі нас ужо не чапляе?
Не, не чапляе. Я веру ў чалавецтва.
Я веру ў чалавечнасць, веру ў мір і згоду.
Веру, аднойчы прыйдзе парадак сусветны,
Дзе ўсім гарантуюць роўнасць, правы, свабоды.
Я веру, што межы, войскі і дыктатуры,
Галеча і цемрашальства, рэлігіі і дзяржавы
Калісь застануцца ў нашым далёкім мінулым,
Не будзе для войнаў у нас ніякай падставы.
Я веру, мы будзем дбаць пра сваю планету,
Пра ейны клімат, лясы, акіяны і горы.
Пакуль так не ёсць. Таму я сяджу з пісталетам
Ва ўласнай кватэры, бы рыцар за частаколам.

## Ужо ім народ забагаты

5 сакавіка гэтага года на сайце газеты «Рэспубліка» быў апублікаваны артыкул Уладзіміра Валчкова «Бясплатная нерухомасць», які распавядае нам пра тое, як мы шмат маем маёмасці і як нічога з гэтага не аддаём нашай дзяржаве.

Але ж і маніпуляцыя!

Цытата: «Калі разабрацца, не такі ўжо ў нас народ і бедны. У прыватнай уласнасці знаходзіцца каля 200 млн квадратных метраў жылля». Што гэта значыць? На кожнага беларуса прыходзіцца каля 20 $м^2$ жылля… Толькі аўтар забываецца сказаць, што палова з іх — гнілыя дзядоўскія хаты ў вёсках пад знос.

Для параўнання: забяспечанасць жыллём у Еўрасаюзе 30—40 метраў на асобу, ЗША — 50—70 метраў на чалавека.

Наступнае: « У сацыяльна арыентаваных краінах ёсць і іншы механізм: падатак на спадчыну. Стаўкі часам драконаўскія».

Разбяром Нямеччыну як прыклад і высвятляем, што маёмасць коштам да 500 000 еўра не абкладаецца падаткам наогул для мужа (жонкі) і да 400 000 еўра — для дзяцей! Каб мы так жылі!

Спадар... выбачайце, таварыш, відаць, не ведае, што ў Беларусі жыллё выконвае функцыю фондавага рынку і страхоўкі ад падману з боку дзяржавы. Адсоткі па рэнце ніжэйшыя за звыклыя адсоткі па дэпазітах, але народ ведае, што зачыніць банк ці замарозіць грошы на рахунку можна адным роспісам на дэкрэце, таму і аддае перавагу захаванню грошай у такім нязручным інструменце ашчаджэння, як нерухомасць.

Аўтар заклікае перакласці на фізічных асобаў падатковую нагрузку прадпрыемстваў.

Цікава, што ж такога плаціць «рэальны» сектар? 12% з чыстага прыбытку — так. ПДВ? Яго фактычна плаціць той, хто купляе тавар, г.з. мы. Акцызы? Яны таксама ў кошце прадукцыі, якую аплачваем МЫ са сваёй кішэні. ФСАН? — платнікам з'яўляецца прадпрыемства, але вылічваюць 34% з НАШАГА заробку…

Паколькі аўтар звяртаецца да практыкі «цывілізаванага свету» з іх вялізнымі падаткамі, маленькая рэмарка: у большасці развітых краін з жабракоў не дзяруць аніякіх падаткаў… зусім ніякіх. Напрыклад, у Нямеччыне падаткамі не абкладаецца даход да 8000 еўра на год. Дык калі вы так хочаце браць прыклад з немцаў, то 96% беларусаў павінны ні капейкі падаткаў не плаціць!

**Вячаслаў Балашэвіч**

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**
**Skype: nashaniva**



**Душэўна**

**Вось такія бабры-будаўнікі стаяць у Брэсце на бульвары Шаўчэнкі.**

## Прыватныя абвесткі

**Прадам** 2,3 і 4 том рэдкага выдання «Беларуская навуковая тэрміналёгія». maciejburachok@gmail.com

**Шукаю зыходныя кады гульні-рагаліка Menskband.** Калі хто мае зыходныя кады гульні Menskband (Mensk, Mensk2), прашу скінуць іх на мыла jot.mail.by@gmail.com. Замучыла настальгія, хочацца партаваць рагалік пад сучасную платформу, а ў сетцы гуляе толькі бінарнік, які трэба рэверс-інжынерыць.

**Мы з палёгкаю і радасцю віншуем цудоўных Танечку Шапуцьку і Глеба Лабадзенку** з нараджэннем другога сына! Глеб і Танечка, вашыя дзеткі — самае галоўнае! Сябры

## МЗС Макея, беларуская мова і кожны з нас

Піша **Ігар Губарэвіч**.

19 лютага міністр замежных спраў Уладзімір Макей на імпрэзе з нагоды Дня роднай мовы чытаў верш «Бацькаўшчына» Янкі Купалы. Праз два тыдні яго намесніца Алена Купчына адкрывала мастацкую выставу на ідэальнай беларускай мове. Абое яны падзяляюць унутраную перакананасць у тым, што беларуская мова павінна граць вялікую ролю ў грамадскім жыцці.

Міністэрства замежных спраў ужо даўно з'яўляецца авангардам прагрэсіўнай беларускай бюракратыі. Аднак, нягледзячы на гэтыя і іншыя прыклады змены стаўлення да нацыянальнай мовы, большасць дыпламатаў да гэтага часу выкарыстоўвае яе вельмі рэдка — больш праз абыякавасць і адсутнасць належнага прыкладу, а не з-за якіх-небудзь палітычных абмежаванняў.

Ва Украіне Расія наглядна прадэманстравала, што гатовая прад'явіць правы на тыя землі, дзе расейская застаецца дамінуючай мовай.

Улады Беларусі, нарэшце, пачулі папераджальны стрэл. Аляксандр Лукашэнка прамаўляў па-беларуску на святкаванні Дня незалежнасці ў ліпені. Гэта стала сігналам для наменклатуры, што яны не павінны лічыць выкарыстанне нацыянальнай мовы выключна прэрагатывай апазіцыі. Пазней Лукашэнка і іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі выступілі за ўзмацненне ролі беларускай мовы і культуры.

Шмат хто чакаў, што МЗС у якасці адной з паказальных устаноў краіны будзе граць вядучую ролю ў гэтым працэсе. Гэтая дзяржаўная ўстанова мае тую перавагу, што многія яе супрацоўнікі — добра адукаваныя людзі.

Аднак вынікі пакуль неадназначныя. Некаторыя змены сапраўды маюць месца, але расейская мова па-ранейшаму моцна дамінуе ў працы міністэрства.
Міністэрства ніколі адкрыта не забараняла і не карала дыпламатаў за выкарыстанне беларускай мовы ў працы, аднак заахвочваць і прасоўваць яе выкарыстанне таксама не спяшалася.

Гэта ў асноўным залежала ад асабістага выбару супрацоўнікаў.

У МЗС заўсёды было два тэлефонныя даведнікі, адзін для штаб-кватэры ў Мінску і другі — для замежных прадстаўніцтваў. У 1995 годзе памочнік міністра, энтузіяст беларускай мовы, пераклаў на беларускую абодва даведнікі. Міністэрства замежных спраў карысталася імі да 1998 года — да аб'яднання з Міністэрствам замежных эканамічных сувязяў.

Затым іншы чыноўнік, які адказваў за стварэнне адзінага даведніка, пераклаў часткі МЗС назад на расейскую. З тых часоў даведнік цэнтральнага апарата заўсёды быў па-расейску. Паколькі зліццё ніяк не паўплывала на сетку замежных прадстаўніцтваў, іх тэлефонны даведнік да гэтага часу існуе і абнаўляецца па-беларуску.

Аўтар гэтага артыкула падчас службы ў міністэрстве ад 1993 да 2006 вёў большую частку перапіскі па-беларуску. У яе ліку было і некалькі дакументаў для Лукашэнкі па пытаннях узаемадзеяння Беларусі і ЗША. Урал Латыпаў, тагачасны міністр замежных спраў (нарадзіўся ў Расіі), падпісаў іх без якіх-небудзь пытанняў з нагоды выбару мовы. Выбар мовы ніяк не ўплываў на маю кар'еру.

Хоць некаторыя змены ў моўнай палітыцы МЗС і абнадзейваюць, яны ўсё ж адбываюцца занадта павольна. Каб новая хваля беларусізацыі адбылася, вышэйшыя службовыя асобы міністэрства павінны паказаць больш рашучасці, а шараговым дыпламатам варта праяўляць больш цікавасці і асабістага ўдзелу.

Ігар Губарэвіч — былы супрацоўнік Міністэрства замежных спраў.

# 27-гадовага фермера з Піншчыны забілі і спалілі за грошы

У студзені ў вёсцы Малоткавічы на Піншчыне **жорстка забілі** маладога фермера. Пагражалі расправіцца з ім даўно. Усе ведалі, але ніхто не падумаў папярэдзіць трагедыю.

Увечары на Раство, 7 студзеня, Аляксандр з сябрам завітаў на піва ў мясцовую кавярню «Тапольна». Затым сябар пайшоў, а Аляксандр застаўся.

«Ён прыйшоў незадоўга да закрыцця, можа, а дзясятай вечара. Настрой у яго быў цудоўны, — кажа работніца кавярні Валянціна Міхайлаўна. — Ён жа амаль не піў. Мог зайсці на бутэльку піўка хіба, і ўсё. Калі раз на тыдзень, а калі і радзей».

Аляксандр у той вечар нічым не вылучаўся — кліент і кліент.

«Не сказаць, каб мы сябравалі — так, знаёмыя, — удакладняе Аляксандр Зырко, з якім забіты перад смерцю выпіваў. — Выпілі. Я пайшоў дахаты. Саша вырашыў затрымацца».

А ў выніку Аляксандр знік. Знайшлі яго ўжо забітым і толькі праз некалькі дзён. Труп у лесе ў суседнім Іванаўскім раёне заўважылі леснікі. На абгарэлым целе былі шматлікія раненні, у тым ліку чатыры ад куляў, як меркавалі. Эксперты пасля ўдакладнілі: стралялі не з баявога пісталета, а з траўматычнага. Рукі ў ахвяры былі звязаныя скотчам. Паміраў у пакутах...

Прычынай забойства называюць грошы. Аляксандр быў вінен: хтосьці кажа пра дзве тысячы даляраў, хтосьці — пра тры. Па словах вяскоўцаў, якія бачылі следчы эксперымент, спачатку хлопца запрасілі на размову наконт даўгоў. Затым каля парку яго ўдарылі бітай, закінулі ў багажнік аўто і з'ехалі. Кажуць, у Малоткавічах хлопца збівалі двое, а трэці ўжо чакаў у лесе.

Падазраваных затрымалі хутка. Двое з іх — бацька і сын — з тых жа Малоткавіч. Пра трэцяга вяскоўцы нічога не ведаюць: відаць, не з вёскі.

«Квахтуха — вось вясковая мянушка таго бацькі. Ён запойны. П'е вельмі рэдка, але некалькі разоў на год зрываецца. Яшчэ ў маладосці трапіў тэхнікам у калгас па размеркаванні. Адпрацаваў — і ўсё, потым толькі ездзіў у Расію на заробкі. Але з грашыма праблем у яго няма. Машыну набыў, пабудаваў дом неблагі, набыў кватэру ў Пінску, — распавядаюць вяскоўцы. — Трошкі за 40 гадоў яму, сыну 20 ці 21. Сын жыў у Пінску, скончыў там тэхнікум, затым паступіў у нейкі расійскі інстытут. І тут зламаў сабе жыццё. А яшчэ і чужое адабраў».

Аляксандр займаўся фермерствам. Яшчэ ў 2008 узяў зямлю. Вырошчваў моркву, капусту, кукурузу. Незадоўга да смерці набыў у Польшчы шчэпы — хацеў пасадзіць яблыневы сад. Але гэта праца сезонная, і адсутнасць вопыту адбілася — вялікіх грошай ён зарабіць так і не паспеў.



Двое з забойцаў — бацька і сын — з тых жа Малоткавіч. Квахтуха — вось вясковая мянушка таго бацькі. Ён запойны

КІРЫЛА ХІЛЬКО.

У вёсцы яго шкадуюць. А людзі не могуць зразумець, што падштурхнула забойцаў на гэты страшны крок. «Гэтаму ўчынку няма апраўдання», — кажа Валянціна Міхайлаўна.

«Гэта жах проста нейкі. Зараз страшна па вуліцы хадзіць, асабліва каля парку, дзе Сашу збівалі», — кажуць цётачкі з Дома культуры. Яны нават збіраюцца пісаць ліст Аляксандру Лукашэнку, каб забойцаў пакаралі «максімальна жорстка». Толькі пісаць трэ' было раней. І не кіраўніку краіны, а ў міліцыю. Як высветлілася, пра пагрозы Аляксандру людзі ведалі.

«Тыя яго даўно цкавалі. Пагражалі. Пра гэта Саша казаў сябрам. Але ж не верылі. А прыкладна за тыдзень да забойства яны яго прыціснулі: спынілі на машыне і паведамілі, што заб'юць, — распавядаюць работніцы Дома культуры. — Было такое, што Саша і на ўцёках быў. Каля трох месяцаў здымаў кватэру ў Пінску, хаваўся ад іх. Казалі, нават прадаў аўто айчыма, каб аддаць частку пазыкі».

«Ні забойцы, ні забіты ніколі не траплялі ў цэнтр увагі органаў. Звычайныя законапаслухмяныя людзі. Ніколі ніякіх праблем з імі не было», — коратка канстатуе ўчастковы міліцыянт Мікалай Бабіч.

Цяпер гэтым «законапаслухмяным» пагражае самае суровае пакаранне — ажно да расстрэлу.

**Улад Швядовіч**

## Вышук



**Здымала суркі**

Жанчына на фота падазраецца ў махлярстве. Яна прапаноўвала зняць суркі. Акрамя аплаты, брала і ўпрыгожанні, якія таксама абяцала ачысціць. Але назад іх не вяртала. Калі вы пацярпелі ад жанчыны на фота, звяртайцеся ў Фрунзенскае РУУС Мінска на (017) 207-67-67.



**Пазычала, пазычала**

Марыя Бартноўская падазраецца ў махлярстве ў Віцебску. Знаёмых прасіла ўзяць крэдыты, абяцала рабіць плацяжы па іх. Але ў выніку знікла з усімі грашыма. Таксама пазычала грошы і не аддавала. Калі вы пацярпелі ад Бартноўскай альбо ведаеце яе месцазнаходжанне, звяртайцеся на (0212) 48-66-37.

# Голыя бегалі па двары, а потым удыхнулі парашок

Гамельчукі пад спайсам пакалечылі свайго сябра: **выдалілі вочы, зрэзалі твар.**

Пацярпелы — 23-гадовы Дзмітрый — страціў працаздольнасць, застаўся сляпым. На лаве падсудных — яго ўжо былыя сябры, зараз абвінавачаныя, 22-гадовы Максім і 30-гадовы Аляксандр. Акрамя нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, іх вінавацяць ў незаконным абароце наркатычных сродкаў.

Дзмітрыя заводзіць у судовую залу пад рукі маці. Хлопец у чорных акулярах і чорным каптуры. Калі здымае каптур, то відаць, што на вачах — павязка з бінтоў і паверх яе — акуляры.

Пракурор апытвае абвінавачаных. Тыя прызнаюць сваю віну ў абароце наркотыкаў, але адмаўляюць, што пакалечылі сябра. Расказваць пра тую ноч будуць толькі ў канцы працэсу — калі дапытаюць іншых.

Максім вучыўся ва ўніверсітэце, ды быў адлічаны. Зарабляў падпрацоўкамі ў інтэрнэце. Аляксандр на момант затрымання таксама не працаваў, збіраўся на заробкі ў Расію. Не працаваў і Дзмітрый.

21 ліпеня яны сабраліся на кватэры ў Аляксандра. Ён жыў з бацькам, які ў той вечар з'ехаў у вёску. Вечарам суседзі былі ўзбударажаныя гучнымі крыкамі. Пайшлі супакоіць моладзь. Убачылі такую карціну: голыя маладыя хлопцы бегаюць па двары. На просьбы супакоіцца не рэагавалі, зачыніліся і кідаліся праз вокны патэльняй. Суседзі выклікалі міліцыю. Аператыўнікі былі шакаваныя: на кухні ляжаў малады чалавек, увесь парэзаны нажом, без вачэй, у лужыне крыві, спяваў песні. І пры гэтым быў у свядомасці і адэкватна адказваў на пытанні, як прозвішча, дзе жыве. Яго забралі на «хуткай» у шпіталь, прыяцеляў — у СІЗА. Толькі праз тыдзень Дзмітрый цалкам усвядоміў свой стан.

На судзе ён спрабаваў, як мог, аднавіць па памяці падзеі таго дня. Сабраліся ў Аляксандра. Максім прапанаваў купіць «галандскую марыхуану». Дзмітрый пазычыў у Аляксандра для гэтай мэты 200 тысяч. Максім прывёз траву. Яна была мокрай, высушылі прасам. Потым Максім прапанаваў «нешта іншае» і прадэманстраваў парашок белага колеру. Пацярпелы, па яго словах, адмовіўся ўжываць той парашок (спайс), сябры ж удыхалі яго.



Дзмітрый не памятае, хто менавіта нанёс яму першы ўдар у скронь. Страціў прытомнасць. Апрытомнеў на падлозе на кухні. «Калі Максім убачыў, што я ачуняў, то паклаў маю галаву сабе на калені і націснуў пальцамі мне на сківаці, і я зноў страціў прытомнасць», — расказваў на судзе хлопец. Потым, па яго словах, ён зноў апрытомнеў, і тады ўжо Максім «націснуў пальцамі мне на вочы».

Ён пацвердзіў, што просіць кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 1 мільярд рублёў з кожнага абвінавачанага. Маці, якая на судзе з'яўляецца яго прадстаўніком, пакуль адмаўляецца ад каментароў.

**Юлія Шымкевіч**

## Сціісла

### Пакуль муж сустракаў жонку, дома згарэлі дзеці

Пажар здарыўся ў вёсцы Нацкава Мастоўскага раёна. Калі агонь патушылі, у доме знайшлі тры дзіцячыя трупы: дзяўчынак 2008 і 2009 гадоў нараджэння і 3-гадовага хлопчыка. Высветлілася, што 26-гадовы бацька адправіўся ў суседнюю вёску сустрэць жонку, дзеці засталіся адны. Малыя ж, як мяркуецца, дасталі запалкі. Калі загарэлася, не змаглі выбрацца: былі замкнёныя ў пакоі, уваходныя дзверы бацька таксама замкнуў.

### Напад на васьмікласніцу

У сярэдзіне лютага па медыцынскую дапамогу ў Віцебску звярнулася 14-гадовая дзяўчынка з хімічным апёкам вачэй. Высветлілася, што 8-класніцы пырснулі ў твар з газавага балончыка. 18-гадовы раней судзімы хлопец падпільнаваў дзяўчынку каля кас Дома кіно і без дай прычыны напаў. Яго затрымалі. Патлумачыў свой учынак спантаннасцю, агрэсіўнасцю. Заведзена крымінальная справа.

### Канфіскавалі паўтоны сала

У Крычаве затрымалі ўкраінцаў, якія ў дызелі правозілі больш за 500 кг сала, вэнджанага і салёнага. Міліцыянты звярнулі ўвагу на мужчыну і жанчыну, якія везлі 12 вялікіх гаспадарчых сумак. Дакументаў на яго не было. Бацька з дарослай дачкой, якія пастаянна пражываюць у Чаркаскай вобласці, везлі тавар на продаж у Беларусь. Сала канфіскавалі і, як паведамляе міліцыя, утылізавалі.

### Засіліўся падлетак

13 сакавіка ў Светлагорску ў лесапаркавай паласе на турніку знайшлі цела 15-гадовага падлетка. Вучань 9 класа, як мяркуецца, павесіўся. У яго мабільніку было паведамленне, у якім школьнік прасіў нікога не вінаваціць. Прычына самагубства высвятляецца.

**КМ**

# У Крыўску даяркі на дырэктара крыўдзяцца

«Дырэктар не лічыць нас за людзей!» — абураецца група даярак. «Яны што — рэпетуюць Майдан тут? Сёння яны хочуць зняць мяне, заўтра захочуць — старшыню райвыканкама, потым — старшыню аблвыканкама, **а потым на прэзідэнта пачнуць гаварыць**, што нешта не так!» — абураецца дырэктар.

Некалькі працаўніц фермы **КСУП «Крыўск» (Буда-Кашалёўскі раён)** узбунтаваліся супраць кіраўніка гаспадаркі. Ужо год яны пішуць скаргі ў розныя інстанцыі. У гаспадарку прыязджаюць праверкі, знаходзяць парушэнні.

«Інфармацыя, выкладзеная ў вашым звароце, знайшла сваё пацвярджэнне», — пішуць з адной інстанцыі. «Парушэнні выяўлены, і пасля праверкі ліквідаваны», — адказваюць з іншага ведамства.

«Гэта проста адпіскі, паперы ходзяць па коле. Скардзімся ў міністэрства — скідаюць скаргі на вобласць, вобласць жа — на раён. А толку нідзе не можам дабіцца!» — кажуць даяркі-бунтаркі.

Сустракаемся з жанчынамі ў доме **Ганны Краснікавай**, якая з 1991 года працуе ў мясцовай гаспадарцы даяркай. Дом прыстойны: нацяжная столь, ванна, добрая мэбля. Толькі вось дом гэты належыць гаспадарцы, КСУП «Крыўск», які да 2 сакавіка быў СВК — сельскагаспадарчым вытворчым прадпрыемствам. А дырэктар прадпрыемства, **Аляксандр Падалячын**, адпаведна, яшчэ колькі дзён таму быў старшынёй СВК. Тады, пры СВК, гэтая пасада была выбарнай — за старшыню галасавалі на сходзе. Цяпер жа, пры КСУП, дырэктар прызначаецца ўладай. Да кіраўніка і прэтэнзіі падначаленых.

«Мы раней працавалі на комплексе. Там новы сучасны комплекс, нібыта з камп'ютарамі, ды ніколі яны і не працавалі. Цялят даглядалі, усё рабілі, што трэба. Але ў снежні 2013 года дырэктар зняў з нас класнасць, заробак зрэзаў, бо быў падзеж жывёлы. І сказаў тады ён нам: дамы ніхто не выкупіць. Дамы калгасныя, а мы хацелі прыватызаваць. Праўда што, каму ён захацеў, таму ён даў выкупіць дамы. Хто яму падабаўся — той дамы прыватызаваў, а хто не — як мы, нам не даў. Тыя паспелі за сорак мільёнаў дамы прыватызаваць, па рэштковым кошце, а нам больш чым 80 мільёнаў налічылі — па ацэнцы, так БТІ налічыла. Дзе справядлівасць? Хіба гэта справядліва, што людзей падзялілі на белых і чорных? Гэта нам за тое, што мы не маўчалі, скардзіліся. Усе органы, куды мы пісалі, адказалі нам, што парушэнні ёсць, а дырэктар як працаваў, так і працуе. Мы казалі, што дырэктар і спецыялісты бульбу сабе садзілі на калгасным полі, бясплатна апрацоўвалі на дзяржаўнай тэхніцы і капалі тую бульбу — і нічога ім», — апавядае Ганна Краснікава.

Жанчына пералічвае парушэнні: за працу ў выходныя і святы ім не плацілі дадатковых, прэмій не было, разліковых лісткоў у вочы ніхто не бачыў, аж пакуль не дабіліся, таксама і абавязковай для СВК калектыўнай дамовы. «А дырэктар збіраў планёркі і так нас душыў, што я хацела з'ехаць куды адсюль. Але куды мне ехаць, мне хутка 50», — разважае Ганна Краснікава.

Яе заробак «чыстымі» — ад 2,7 да 3,7 мільёна. Па яе словах, кіраўніцтва гаспадаркі злоснае на іх за скаргі, і помсціць, цісне на ўсю сям'ю.

Даярка і яе калегі сцвярджаюць, што мясцовае кіраўніцтва жыве на шырокую нагу — у гаспадарцы 10 дарагіх аўтамабіляў, а дырэктар ездзіць на «ФалькСвагене Туарэгу». «Несправядліва!» — кажуць даяркі.



**Ганна Краснікава каля сваёй (калгаснай) хаты.**



**Дырэктар КСУП «Крыўск» Аляксандр Падалячын.**



**Алена Бенгель і Валянціна Кулідобры (наперадзе — Алена, за ёй — Валянціна).**

На ДМБ (дайльна-малочным блоку) даяркі маюць 5 мільёнаў заробак, а яны на комплексе — толькі тры мільёны. Несправядліва!

Асемянатар **Валянціна Кулідобры** таксама пакрыўджана. «Неяк карова здохла, яны яе схавалі, я сфатаграфавала на мабільны тэлефон, адначасова карэспандэнту паказала. Як толькі той карэспандэнт прыехаў, ды мы там з ім яшчэ адну карову знайшлі здохлую. А кіраўніцтва кажа: ды падкінулі нам тую карову, ворагі нейкія. Смех! Прыехаў камітэт па сельскай гаспадарцы, яны карову схавалі здохлую, пад салому. Ідзіце, — я сказала дырэктару, там яшчэ адну карову «падкінулі» здохлую, і дырэктар, канечне, вельмі на мяне разлаваўся за гэта», — кажа Валянціна Кулідобры.

«Дырэктар супраць нас настроіў людзей, ды нават і не настроіў, а зрабіў наёмнікамі. Як ва Украіне — падаваў ім прэміі, проста так, наняў іх, і тыя ўжо за яго. А нас ён проста выціскае адсюль», — упэўненыя даяркі.

Ганна Краснікава дадае, што «рэпрэсіі» дайшлі і да яе мужа-механізатара. «Яму дырэктар забараніў працаваць па святах і выходных, там жа падвойная аплата, ён мог бы зарабіць — а нельга. І рабочых не хапае, яго б узялі на мехдвары — ды дырэктар не дазваляе», — адзначае жанчына.

Кіруемся ў кантору прадпрыемства. Тут нас сустракаюць заўгас **Таццяна Канавод** і старшыня прафсаюзу КСУП **Наталля Карлоўская**. Яны дзівяцца — чаго толькі тыя даяркі незадаволеныя? Вязуць нас на ферму, пералічваюць выгоды працы даярак. «Мы ім спецадзенне далі! Былі парушэнні — бо мы давалі халаты раз на год, а трэ' было раз на шэсць месяцаў, але мы выправіліся. Больш таго — і курткі далі, хоць і не паложана, боты выдалі. Вось шафы ім паставілі — пераапранацца, як яны прасілі, — дык яны не карыстаюцца! Чаму? Не ведаем. Вось тут пакой адпачынку — чай можна піць», — паказваюць жанчыны.

Яны з гатоўнасцю дэманструюць зварот вяскоўцаў да раённага кіраўніцтва, які падпісалі, па іх словах, 95 чалавек. Сэнс звароту — у нас добры старшыня, пакіньце яго нам працаваць.

Пра заробкі прафсаюзная кіраўніца і заўгас тлумачаць так: тыя больш атрымліваюць, бо ў іх малако «экстра», гэтыя — менш, бо ў іх малако першага гатунку.

На комплексе сустракаем памочніцу брыгадзіра **Алену Марозаву**. Яна коратка кідае, што «я — за дырэктара, а астатнія маюць сваё ўласнае меркаванне».

Старшыня прафкама і заўгас таксама гарой стаяць за дырэктара. Маўляў, ён за справу перажывае, людзям дапамагае. «Чаго ім не хапае, тым даяркам? Мы ўсё для іх зрабілі, хіба толькі на калені стаць перад імі?»

Вілкамі падкідае корм каровам жывёлавод **Алег Лагуноў**. Пра дырэктара ён кажа: «Кіраўнік як кіраўнік. Мяне асабіста заробак задавальняе».

З Крыўска кіруемся ў суседнюю вёску Бацунь. Сюды з Крыўска дырэктар перасяліў даярку **Вольгу Юлдашаву**. У яе — свая крыўда. Хата, прызначаная ёй для жытла — проста жах. Ацяплення няма — кацёл зламаны. Электрычнасці няма — адрэзаны правады. Вады няма. Ды і сам дом выглядае жудасна — ні нармальных дзвярэй, ні вакон, ні падлогі.

«Жылі ў Крыўску з сынам у доме. Сын працаваў тут, у гаспадарцы, потым паехаў у Расію, і дырэктар сказаў мне: ты адна, займаеш катэдж, звальняй яго. Гэта было ў жніўні. Маўляў, прыязджаюць украінцы з Данбаса, будуць тут жыць. І мяне сюды вось, у Бацунь, выселіў. Я кажу — як, Паўлавіч, я буду тут жыць? А ён кажа — я ж цябе не на вуліцу выкідаю, а дом даю. Тут зрабіць рамонт нерэальна — у мяне 2,2 мільёна заробак. Кацёл купіць? Дык ён 6—7 мільёнаў каштуе. Тут сям'я да мяне жыла, выселіліся, пакінулі пазыку за 2 тысячы кілават за святло, вось святло і адрэзалі. А чым мне плаціць за чужыя пазыкі? І нікога гэта не цікавіць. У выніку я здымаю у людзей іншы дом — плачу ім 200 тысяч, а за гэты дом у мяне яшчэ 300 тысяч вылічваюць — вось толькі за што?» — паказвае раскіданае гняздо Вольга Юлдашава.

Вяртаемся ў Крыўск, чакаем дырэктара КСУП. Каля крамы сустракаем яшчэ дзвюх даярак — **Галіну Карлоўскую** і **Кацярыну Краўчанка**.

«Нас усё задавальняе — і заробак, і дырэктар. У нас парадак. Нам што скажуць — мы тое зробім. Брыгадзір скажа — зробім. І старшыня скажа — таксама зробім. Чаго іншыя даяркі не задаволеныя? Ну, можа яны перасварыліся, можа, хочуць нечага большага, нечага залішне ўзвышанага. Старшыня дае ім што можа. А што не можа — ну гэта ўсюды так», — патлумачыла Кацярына Краўчанка.

Тым часам з нарады ў Буда-Кашалёве вяртаецца ў Крыўск дырэктар, **Аляксандр Падалячын.**

Сустракае нас гасцінна, не здзіўляецца візіту. Пачынае з эканамічных поспехаў прадпрыемства, якім ён кіруе 18 гадоў. Кажа, што па выніках года ў вобласці па эфектыўнасці гаспадарка заняла трэцяе ці чацвёртае месца. А прыбыткі за мінулы год склалі 15 мільярдаў, сярэдні заробак па КСУП (раней СВК) за 2014 — 5,7 мільёна рублёў. Па словах кіраўніка, гаспадарка поўнасцю гатовая да пасяўной, хапае кармоў, каровы не галадаюць, заробак выдаецца у час.

«А вось ад даярак мы патрабавалі толькі аднаго — каб яны выконвалі дакладна па тэхналогіі працу. У нас тры разы трэба было даіць кароў — яны не даілі, свае абавязкі не выконвалі — мы павінны былі рэагаваць і караць іх. Вось яны арганізавалі каманду — пяць чалавек, ходзяць, пішуць скаргі, маўляў, да таго часу, пакуль не звольняць старшыню», — даводзіць Аляксандр Падалячын.

«Як можна з такімі людзьмі змагацца? Яны не толькі прыніжаюць гэтым уладу, у тым ліку і раённую, але гэтыя людзі, яны што? — Рэпетуюць перад Майданам? Майдан тут нейкі хочуць зладзіць?» — абураецца кіраўнік.

Па сітуацыі з Вольгай Юлдашавай, якую выселілі ў хату без святла, цяпла і вады дырэктар тлумачыць проста: сама вінаватая. «Вось яна жыла тут у Крыўску — такі вэрхал у яе хаце быў! Яна забрудзіла там усё, не плаціла за электрычнасць, і ў гэтым доме таксама не плаціць. Хто сёння ў нашай краіне даў каму права не плаціць за святло?!» — кажа Аляксандр Падалячын.

Дом у Бацуні, які далі даярцы, быў у добрым стане, кажа ён, пакуль яна не пасялілася і не разнесла яго. І кацёл зламала, і за электрычнасць не плаціла, кажа. І дадае, што «яе і адтуль зараз трэба высяляць».

Па прыватызацыі дамоў кіраўнік тлумачыць проста: такія цэны выставіла БТІ, і калі людзям не падабаюцца цэны — то хай не выкупляюць дамоў.

«Трэба, каб у краіне быў парадак! Навошта збіраць бруд і ганьбіць раён? Мы пабудавалі два малочна-таварныя комплексы, мы маем 130% вытворчасць малака да ўзроўню мінулага года, мы стараемся, каб жывёлы былі высакапрадукцыйныя... Я не ведаю, як з гэтымі людзьмі быць. У іх асабістая нянавісць. бо некалі мы іх прымусілі працаваць правільна, па тэхналогіях», — лічыць Падалячын.

Выказаўся ён і пра асемянатара Валянціну Кулідобры. Маўляў, яна неэфектыўна працуе. Больш таго, па словах кіраўніка — наўмысна, каб нашкодзіць гаспадарцы, не асемяняе кароў і цёлак. «Наўмысна — каб развальіць гаспадарку, прынесці нам страты, і каб мяне знялі з пасады, пакінулі вінаватым! Яна лічыць сябе такой вялікай, што яна скаргі піша — і ўсе будуць падаць перад ёй на калені і больш нічога», — гарачыцца Аляксандр Падалячын.

Ён дадае, што «даўно трэба было яе выгнаць па артыкуле».

«Дык прабачце! Сёння яны хочуць зняць мяне, заўтра — старшыню райвыканкама, потым — старшыню аблвыканкама, а потым на прэзідэнта пачнуць гаварыць, што нешта не так!» — прагназуе самыя «страшныя» варыянты развіцця падзей кіраўнік.

Тым часам даяркі з надзеяй чакаюць адказ з пракуратуры, чакаюць рэакцыі і з іншых інстанцый. Яны спадзяюцца знайсці недзе справядлівасць.

***Юлія Шымкевіч,***
**Гомель-Крыўск-Гомель**

# Ліцвінства — выдумка ворагаў, якую падтрымалі дурні

Пра імперскую палітыку, небяспекі ліцвінства і гістарычныя фэйкі апавядае гісторык-медыявіст **Алесь Краўцэвіч**, які нядаўна выдаў другую частку сваёй «Гісторыі ВКЛ».

У гэтай частцы кнігі апісваюцца падзеі ад каранацыі Міндоўга да смерці Альгерда. Наступная кніга ў серыі выйдзе пад назвай «Крызіс улады» і будзе прысвечана жарсцям палітычнай барацьбы паміж Ягайлам ды Вітаўтам з Кейстутам. Мы гутарым з Алесем Канстанцінавічам пра герояў кнігі, гістарычныя паралелі ды ролю гісторыі ВКЛ для беларускага грамадства сёння.




**«Наша Ніва»: У грамадскай свядомасці Альгерд і Кейстут адступаюць на другі план перад Вітаўтам, наколькі заслужана?**

**Алесь Краўцэвіч:** Пра Вітаўта больш вядома гісторыкам. Ды і слава такая цалкам заслужаная: акурат пры ім дзяржава выйшла на вяршыню магутнасці. Вітаўт і на тыя часы меў велізарны аўтарытэт у Еўропе.

У нашым беларускім кантэксце існуе такі стэрэатып пра «нядобрага» Ягайлу і «добрага» Вітаўта. У мяне таксама такі стэрэатып сядзіць у галаве... Але калі я ўжо буду рабіць працу па Вітаўту, чытаць дакументы — там і паглядзім, як было насамрэч.

## Альгерд «ані піва не піў, ані квасу…»

**«НН»: Мы часта апелюем да сухіх фактаў, датаў, тэкстаў пагадненняў, а ці раскрываюць дакументы 600—700-гадовай даўніны чалавечыя рысы таго ж Альгерда альбо Кейстута?**

**АК:** Вядома. Акрамя навуковага сінтэзу, я спрабую пісаць і біяграфіі вялікіх князёў літоўскіх. Дакументы фіксуюць і выказванні, і дзеянні гэтых асобаў, адкуль мы даведваемся, што ж гэта былі за людзі.

Напрыклад, Кейстут зрабіў у Вільні пераварот і аддаў уладу старэйшаму брату Альгерду. Далей — ён працягваў захоўваць сістэму дуумвірату і пасля смерці Альгерда, хоць мог заняць яго месца. Мы бачым, што чалавек ставіў інтарэсы дзяржавы вышэй за свае асабістыя. Сведчыць пра характар? Сведчыць.

Пра Альгерда пішуць летапісы: «Ані піва не піў, ані квасу, ані якога іншага ап'яняючага пітва. Таму мудрасцю ўсіх пераўзыходзіў». Там жа пішацца, што Альгерд быў такі скрытны, што калі збіраўся ў паход, дык не тое што дружыннікі, але нават ваяводы не ведалі да апошняга, куды будзе паход. А гэта ўжо пра выдатныя здольнасці тактыка.

## Мы аказаліся шчытом Еўропы перад Расіяй

**«НН»: Ці можна ВКЛ лічыць імперыяй? І ці ёсць тады ў крыві беларусаў свой імперскі ген?**

**АК:** Імперыя — гэта цалкам асобны стан дзяржавы. Магчыма, Вялікае Княства набліжалася да такога стану ў часы Вітаўта, але не ўтрымалася на гэтай пазіцыі. Але калі казаць пра Русь, то пазіцыя ВКЛ канечне была імперскай. Гэта і ўплывы на вялікую прастору, і распаўсюд «імперскай» старабеларускай мовы, на якой пісалі нават у Малдове. Можна хутчэй сказаць, што гэта імперыя, якая да канца не адбылася.

**«НН»: Ёсць думка, што Беларусь нечым нагадвае Аўстрыю. Краіна-спадчынніца вялікай у мінулым імперыі, якая згубіла свой патэнцыял і наўпрост стамілася. Ці можна сказаць, што беларусы сваю пасіянарнасць пакінулі ў мінулым?**

**АК:** Можна параўнаць і з Англіяй, якая таксама адмовілася ад імперыі. Я калі быў у Лондане, то заўважаў, з якой іроніяй ангельцы ставяцца да свайго імперскага мінулага. Але хто скажа, што Англія сёння — не ўплывовая краіна?

Калі казаць пра беларусаў, то тут сітуацыя выключная ў геапалітычным плане. Менавіта мы, а не Польшча, аказаліся шчытом Еўропы перад Расеяй. Дзвесце год мы стрымлівалі гэтую азіяцкую імперыю і за гэта паплаціліся: імперыя нас паглынула цалкам.

Тое, што Аўстрыя страціла сваю імперыю адной з першых, пасля Першай сусветнай вайны, было вынікам, як ні дзіўна, талерантнай палітыкі да народаў, якія былі ў яе складзе. Фармальна ўсе народы ў імперыі былі роўныя...

**«НН»: Як і ў ВКЛ.**

**АК:** Так, як і ў ВКЛ. Аўстрыякі падтрымлівалі культурную аўтаномію частак імперыі. Прыклад той жа Галіцыі, дзе аўстрыйцы не душылі, а, наадварот, падтрымлівалі ўкраінскую ідэнтычнасць, добра вядомы. Праўда, рабілася гэта, каб нейтралізаваць польскі рух, але ж рабілася! У выніку такой палітыкі імперыя не вытрымала. У Расеі ж, наадварот, — душылі ўсе праявы іншай ідэнтычнасці...

Але я б не стаў казаць, што беларусы — гэта «стары» народ. Наша нацыя хутчэй перажывае дзяцінства, якое зацягнулася.

## Ермаловіч памыляўся ва ўсім

**«НН»: Расійскія шавіністычныя рэсурсы ў інтэрнэце ў якасці сваіх ворагаў у Беларусі выводзяць «ліцвінаў» — амаль як бандэраўцаў ва Украіне…**

**АК:** Усё, што адбываецца за часам панавання Лукашэнкі, можна акрэсліць як «ціхую акупацыю», альбо «ментальную акупацыю». Гэта і разбурэнне нацыянальнай беларускай ідэалогіі, у тым ліку праз фінансаванне Расіяй праектаў і сайтаў, розных «цытадэляў» ды «імперыяў»...

Цікава, што Расія падтрымлівае таксама рэгіянальныя праекты — тое ж «ліцвінства». Не ў разуменні, што «ліцвін» — гэта беларус, а ў разуменні, што, маўляў, мы літоўцы, маем вучыць літоўскую мову і злучацца з Літвой. Тое, чым да нядаўняга часу займаўся сп. Дзермант. Калі каротка, дык гэта выдумка нашых ворагаў, якую падтрымалі нашыя дурні.

З боку Расеі атакуецца тое «ліцвінства», якое з'яўляецца сінонімам беларускасці. Таму што гэта, як і любыя згадкі пра пераемнасць з ВКЛ, ментальнае і тэрміналагічнае аддаленне ад Расіі. Бо наш народ прыняў сучасную назву, канечне, пад прымусам Расіі.

**«НН»: Вывучэнне і папулярызацыя гісторыі ВКЛ можа быць прышчэпкай ад «рускага міру»?**

**АК:** Лічу, гэта вельмі моцная прышчэпка, бо яна фармуе гістарычную свядомасць і нацыянальную ідэалогію, значнай часткай якой з'яўляецца гістарычная памяць. Гэта апора на традыцыю дзяржаўнасці, якая была ў мінулым.

Нядаўна на гістарычнай канферэнцыі ў Мінску адзін расейскамоўны украінец з Кіева адзначыў: «Этнічная гісторыя Украіны прывяла да грамадзянскай вайны...» Я запратэставаў, бо калі б не было выкладання нацыянальнай гісторыі на працягу 25 год, то быў бы не толькі «Крымнаш», але і Харкаў, і Чарнігаў.

Украінцам за гэты час прышчапілі такі зарад нацыянальнай гісторыі — часам з перабольшваннямі, з Казацкай дзяржавай ажно да Мінска, — але прышчапілі! І гэта цяпер важны фактар у захаванні ўкраінскай дзяржавы. Але гістарычныя міфы варта канструяваць прафесійна, каб пасля не прыйшлося перарабляць, як міф Ермаловіча пра ВКЛ.

**«НН»: А ў чым быў недакладны Ермаловіч?**

**АК:** Ва ўсім. Няправільна лакалізоўваў Літву. Няправільна выводзіў прычыну стварэння ВКЛ — вайну... Я яго вельмі шаную асабіста, як будзіцеля памяці, але выводзіць з яго працамі на міжнародную арэну — гэта толькі ганьба. Як і з працамі Анатоля Тараса.

## Для беларусаў — толькі па-беларуску

**«НН»: Пашыраць гісторыю ВКЛ і Беларусі наогул можна толькі па-беларуску ці варта і па-расейску?**

**АК:** Я лічу, што на тэрыторыі Беларусі — толькі па-беларуску. Свае кніжкі я адмаўляюся выдаваць па-расейску, хоць мне казалі: «яны пойдуць у Расею» — невядома ж... Для Літвы варта выдаць гісторыю ВКЛ па-літоўску, таксама як яны выдалі сваё бачанне па-беларуску. Для ўкраінцаў — па-ўкраінску, для палякаў — папольску, для беларусаў — пабеларуску.

Бо чалавек, які не ў стане прачытаць гістарычны тэкст пабеларуску, жывучы ў Беларусі, увогуле гісторыяй не цікавіцца. На іх няма чаго марнаваць час. А вось дзяцей гэтых людзей у школе трэба навучыць як належыць.

**«НН»: Кніжкі пра ВКЛ Анатоля Тараса альбо нават Вітаўта Чаропкі, выдадзеныя па-расейску, можна ўбачыць у кнігарнях — гэта недарэчнасці, на вашу думку?**

**АК:** Гэта кан'юнктура, чыста фінансавыя справы, рынак. Я бачу сваёй задачай адукоўваць публіку, а людзі, якіх вы пералічылі, — хочуць зарабіць.

## Пісаць як Тарасаў

**«НН»: Выдаўцы беларускамоўнай гістарычнай літаратуры могуць напоўніць кнігарні альтэрнатыўным таварам?**

**АК:** Пакуль мы не паспяваем, але гэта рэальна ва ўмовах стымуляцыі. Не абавязкова з боку дзяржавы. Такія рэчы можна было б рабіць на конкурснай аснове, адбіраць найлепшыя працы і выдаваць нармальнымі накладамі — некалькі на год. А гісторыкаў у нас, дзякаваць Богу, хапае.

Наша найбольшая хіба, што ў Беларусі няма каардынацыі гістарычнай асветы грамадства. Што такое сістэма гістарычнай навукі? Гэта дрэва. Карані — гэта фундаментальная навука, ствол — гэта адукацыя, крона — папулярызацыя. І тут усё звязана. Калі дрэннае карэнне — значыць, будзе слабы ствол. Няма лісця — значыць, паветра не хапае, і ўсё астатняе гіне.

**«НН»: У нашых суседзяў выходзіць багата фэйкавай гістарычнай літаратуры для падтрымкі велічнага нацыянальнага міфа. Расейцы пішуць пра славянскія карані старадаўніх рымлянаў, украінцы — пра ўкраінскі характар Трыпольскай культуры… Ці прыйдзе час падобных фэйкаў ад беларускіх гісторыкаў?**

**АК:** Я супраць такіх рэчаў. Хапае сапраўдных гістарычных фактаў, на аснове якіх можна пісаць папулярныя кніжкі і нават мастацкую літаратуру. Я супраць прафанацыі гісторыі, бо падманваць неабазнанага чытача — гэта як падманваць дзіця. І падобныя фэйкавыя рэчы робяць магчымым усё — любую выдумку. Гэта разбурэнне павагі да навукі.

Павінен быць моцны і таленавіты аўтар, як, напрыклад, Кастусь Тарасаў, светлай памяці. Чытаеш яго «Пагоню на Грунвальд» — і навукова, і па-мастацку. Трэба стараца рабіць папулярызацыю на прафесійным узроўні. Можна ж прыдумаць беларуса-героя, напрыклад, Грунвальдскай бітвы. Але каб ён апрануты быў як тады. Каб ён быў у харугве, якая рэальна была пад Грунвальдам. Каб ён махаў мячом пачатку XV ст. І каб маляваў гэта, напрыклад, Павал Татарнікаў. Гэта будзе лепш за ўсялякія фэйкі!

Гутарыў Алесь Кіркевіч.
Фота аўтара

**Алесь Краўцэвіч**

Нар. у 1958. Доктар гістарычных навук, прафесар. Вывучае сярэднявечную гісторыю Беларусі. Жыве ў Гродне.

# Еўрапеоід, але ці Каліноўскі?

**Каб высветліць, хто на фота, гісторык-архівіст Язэп Янушкевіч звярнуўся да крыміналістаў.**

На пачатку XXI стагоддзя дзіўным чынам даводзіцца канстатаваць: гісторыя беларускай фатаграфікі пазамінулага, XIX ст., не напісаная. І не раскрытая аніякім чынам, аніякай манаграфіяй (у адрозненне, скажам, ад гісторыі айчыннай архітэктуры, жывапісу і інш., не кажучы пра няблага вывучаныя гісторыі беларускай літаратуры і мовы, дзе налічваецца сотні даследаванняў).

Адзін з відавочных момантаў такога занядбання бачыцца ў тым, што на бальшыні ацалелых фотаадбіткаў XIX стагоддзя — стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, Рамуальда Траўгута, Ігната Грынявіцкага — захаваліся абрысы «не тых герояў»: пад савецкай акупацыяй яны блага ўкладаліся ў канцэпцыю адмірання беларускай мовы і пабудовы адзінай «савецкай нацыі».

Наогул, належыць памятаць, што XIX ст. — гэта й стагоддзе Джузэпе Гарыбальдзі, Шымана Канарскага, Адама Міцкевіча. У тыя паднявольныя часы сам факт захавання твораў і фотаадбіткаў правадыроў нацыянальна-вызвольных рухаў пагражаў жыхарам Паўночна-Заходняга Краю высылкай «у нялюдскую зямлю».

Найбольшая колькасць рукапіснага і фатаграфічнага матэрыялу захоўваецца ў архівах Літвы і Польшчы. Наша архіўная Мекка — гэта, бясспрэчна, Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, дзе амаль у некранутым выглядзе ацалеў Архіў музея графа М.М. Мураўёва.

Зборы яго, як адзначае гісторык Вольга Гарбачова, налічваюць каля 600 фотаздымкаў перыяду 60-х гадоў XIX — пачатку XX ст. Сярод іх — два вядомыя нам здымкі Каліноўскага: правадыр паўстання ў поўны рост (каля люстэрка) і Каліноўскі з чорным гальштукам. Ёсць у архіве і трэці здымак, вакол якога вядуцца спрэчкі даследчыкаў. На ім, як адзначае В.Гарбачова, «мужчына вельмі падобны да К. Каліноўскага». На адвароце здымка алоўкам напісанае і яго імя. Праўда, з пытальнікам. Той пытальнік, пастаўлены яшчэ ў часы Мураўёва, не зняты дагэтуль.

Разам з тым неанатаваным фота захоўваюцца выявы выключна паўстанцаў: Людвіка Звяждоўскага, Ігната Здановіча, Зыгмунта Серакоўскага, Аляксандра Скірмунта, Баляслава Свентаржэцкага, Багуслава Сэміградскага, Альфрэда Ромэра, Браніслава Залескага, Ціта Далеўскага, графа Лявона Плятэра, Эдуарда Чыжэўскага... Аднак навукова пацвердзіць (або адкінуць) гіпотэзу адносна «трэцяга фота Каліноўскага» можа толькі судовая экспертыза. Нагадаем, што ўжо аднойчы гісторыкі прамахнуліся — памылкова прыпісаўшы правадыру нацыянальна-вызвольнага супраціву фатаграфію паўстанца са стрэльбай-ружжом (зрабіў гэта А.Смірноў, які ў 1959 выдаў кнігу «Кастусь Калиновский»).

Таму да пытання экспертызы трэба падысці паважна.

У сакавіку 2014 мы звярнуліся з адпаведнай заявай у Галоўнае ўпраўленне крыміналістычных экспертыз Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь у Мінску. У якасці матэрыялу на экспертызу былі аддадзеныя тры фота:

1) здымак Ахілеса Банольдзі (Каліноўскі ў поўны рост);

2) здымак пагрудны (з чорным гальштукам);

3) здымак, які В. Гарбачова прапануе лічыць за фота Каліноўскага.

І пацягнуліся тыдні чакання. Некалькі разоў мы спрабавалі прыспешваць крыміналістаў, аднак тыя рэагавалі нервова, спасылаючыся на вялікую занятасць. Аднойчы нават прадэманстравалі прыладу забойства са слядамі засохлай крыві, якая таксама чакала экспертызы.

Але праз месяц з нечым экспертыза вынесла вердыкт. Цікава, што ўсе здымкі, зробленыя прыкладна ў адзін час (перад паўстаннем), у апісанні эксперта-крыміналіста вызначаныя з розніцай у дзясятак (і больш!) гадоў: №1 «...На здымку выяўлены мужчына ў поўны рост. Мужчына — антрапалагічнага тыпу, еўрапеоід, узрост на выгляд — каля 35 гадоў. Галава яго павернутая да аб'ектыва левым паўпрофілем. У мужчыны цёмныя валасы. На твары ў мужчыны маецца расліннасць у выглядзе вусоў і бароды цёмнага колеру...»

«Фотаздымак №2 чорна-белы, прастакутнай формы. На здымку пагрудны мужчына... антрапалагічнага тыпу, еўрапеоід, узрост на выгляд — каля 30-ці гадоў. Ракурс здымка — блізкі да анфаснага. У мужчыны цёмныя валасы...»

«Фотаздымак №3 чорна-белы, прастакутнай формы. На здымку мужчына ў поўны рост. Мужчына — антрапалагічнага тыпу еўрапеоід, узрост на выгляд — каля 20 гадоў. Галава ў яго павернутая да аб'ектыва левым паўпрофілем. У мужчыны цёмныя валасы...»













Выснова крыміналістычнай экспертызы — наступная:

«1. На фотаздымку №1 і №2 выяўлены адзін і той жа чалавек.

2. Вызначыць, ці з'яўляецца чалавек на фотаздымку №3 тым жа чалавекам, што і на фотаздымках №№1, 2, не ўяўляецца магчымым».

Апошняя няпэўнасць — нібыта з прычыны нездавальняльнай якасці прапанаванага фота. Але, што важна на дадзеным этапе, станоўчага адказу пра падабенства таксама няма. Таму «пытальнік», пастаўлены нейкім мураўёўскім падручным, застаецца, пакідаючы прастору для розных версій. Вось адна з іх: што, калі на фотаздымку старэйшы брат Кастуся, Віктар? Ён таксама быў уцягнуты ў падрыхтоўку паўстання, аднак памёр ад сухотаў незадоўга да яго пачатку.

Разгледжаны «пытальнік» на адвароце паўстанцкага фота — адзін з нешматлікіх прыкладаў, калі надпіс не дадае інфармацыі, а заблытвае. Большасць падпісаных паўстанцкіх фота нясуць найкаштоўнейшыя звесткі, якіх не сустрэнеш і на дзясятках архіўных аркушаў:

«Дмитрий Базанов, отставной юнкер Староингерманландского полка. Отобрано от мятежника в шайке Нарбута»;

«Вельчинский По показанию пленных бывший поручик Русской службы, а в шайке Капитан (ранен, в плену и достален в крепость)»;

«Ксендз Александрович. Начальник Новоалександровского уезда, член Революционной организации. — 1864»;

«Доктор Мечислав Оттонович Глиндзич — Начальник Волковыского уезда, член Революционной организации. — 1864. Mieczysław Glindzicz.»;

І калі пра праваслаўнага Змітра Базанава з Гарадзеншчыны (найбліжэйшага паплечніка Кастуся Каліноўскага) або каталіцкага святара Александровіча ў гістарычных даследаваннях можна адшукаць нейкія звесткі, дык пра Вяльчынскага ці Гліндзіча — няма аніякіх. Зрэшты, усе названыя персаналіі адсутнічаюць у айчыннай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»... А калі насур'ёз — дык перад айчыннымі гісторыкамі ў поўны рост паўстае неабходнасць стварыць капітальнае энцыклапедычнае выданне, прысвечанае паўстанню 1863—1864 гадоў.

Ёсць у тым архіве і пазнейшыя здымкі паўстанцаў. На якіх бязвусыя дзецюкі параблiся барадатымі катаржнікамі... Таму ў позірках сібірскіх ссыльных зусім іншая настраёвасць...

...Наколькі кожнаму з нас хочацца адшукаць свайго продка на гэтых сотнях здымкаў, заўважыць хоць нейкае візуальнае падабенства ў рысах абліччаў сваіх крэўных! Зразумела, што ж перажывалі яны, перш чым адышлі на Неба, спаўна адпакутаваўшы тут і не трацячы надзеі, што «адно з праўдай у грамадзе згодна дажджэш, Народзе, старасці свабодна»...

**Каміля Янушкевічанка, Язэп Янушкевіч**

**In memoriam**

### Пісьменнік Валянцін Распуцін

Расійскі пісьменнік Валянцін Распуцін не дажыў адзін дзень да свайго 78-годдзя. Многія памятаюць ягоныя творы «Развітанне з Мацёрай» і «Урокі французскай». Помняць, і як ён палымяна абараняў савецкую ўладу, змагаўся з Ельцыным, падтрымліваў у тым ліку нападкі на Алеся Адамовіча і Васіля Быкава.

Але як пісьменнік — цудоўны. Многія ў свой час ягонымі кнігамі проста зачытваліся.



«Кнігі адназначна застануцца ў залатым фондзе расійскай літаратуры, а ўсё астатняе адыдзе з часам на задні план, — кажа гісторык Алесь Пашкевіч. — Нябожчык Валянцін Распуцін неадназначны чалавек быў. Нават пазіцыя па нацыянальным пытанні была ў яго двухсэнсоўная», — успамінае ён і прыводзіць вось якую цытату.

«З савецкай уладай у мяне ў першую чаргу былі разыходжанні па нацыянальным пытанні. Я заўсёды лічыў, што спроба скасаваць нацыянальнасці іператварыць усіх у адну сям'ю бессэнсоўная. Вось, здавалася б, мы ў Сібіры заўсёды жылі з буратамі ў міры. Яны нашы суседзі. Іх самабытнасць ніяк не магла пагражаць нашай самабытнасці, а наша — іхняй. Але гады савецкай улады прывялі да таго, што бураты сталі забываць уласную мову. Песні свае перасталі спяваць. І не таму, што іх прымушалі гэтыя песні забыцца, а таму, што мы ўсе — савецкі народ, руская мова — гэта наша савецкая мова. Я ўспамінаю, як адзін амерыканскі кампазітар хацеў паслухаць бурацкія песні. І раптам высветлілася, што яны не могуць іх ужо спяваць. Не могуць — і ўсё. Я нават не ўяўляў сабе, як усё запушчана. Мне да таго было сорамна перад гэтым амерыканцам, я ж запэўніваў яго, што мы з лёгкасцю знойдзем патрэбны яму фальклорны матэрыял. А цяпер іншая крайнасць. Бурацыя хоча вучыць у школах рускіх дзяцей бурацкай мове. Навошта гэта, пытаюся? Бурацкія паняцці ў нашай сібірскай рускай мове ўжо даўно ўкаранёныя. Мы выдатна разумеем адзін аднаго. А вось як бы ў адплату. Быў перакос у адзін бок, цяпер у іншы», — пісаў ён.

У Беларусі найлепш расійскую так званую «вясковую прозу» ведаў і цаніў нябожчык Алесь Пісьмянкоў.

«Наш Алесь Жук напісаў сваё «Халоднае поле» калі не раней, дык адначасна з распуцінскім «Развітаннем...», але... Натуральна, маскоўскай і ленінградскай крытыцы бліжэйшы быў свой», — такія паралелі праводзіць Анатоль Сідарэвіч.

Пісьменнік **Сяргей Астравец** напісаў алегарычны раман «Багуславія». Гэты 520-старонкавы твор — аб гістарычных лёсах, змесце ўлады, аб рыцарстве і яго знішчэнні. Прапануем увазе чытачоў яго ўрывак.

# Багуславія

**Сяргей Астравец**

пісьменнік. Жыве ў Гродне. Раман пра краіну Багуславію і народ багуславаў быў задуманы ў Гурзуфе, у Крыме, пачаты неўзабаве на востраве Готланд у Балтыйскім моры і напісаны за наступныя чатыры гады ў Гродне.



### Дэмантаж

...Рыцары на плошчы трапілі ў пастку, як той небарака парсюк на вясковым падворку. Статую замкнулі ў кола, ашчэціўшыся, нібы дзідамі і алебардамі, інструментам. Паплявалі на рукі, зачалася праца. Нехта ўзброіўся прымітыўнай паяльнай лямпай. Такой кабаноў на вёсцы смаляць, дзе толькі выкапаў? Некаторыя з'явіліся з малатком і зубілам.

А ў чым віна двух рыцараў? Што наважыліся паставіць капытом конскім кропку ў вайне нерваў, у замарожанай дыпламатыі, заклікаючы да свабоды? Блізка да праўды. Іх, ці, прынамсі, тых, хто паставіў статую, не зразумелі або дакладней успрынялі як пагрозу хто чакаў за кулісамі. Яны выскачылі на сцэну, каб не даць людзям дыхаць свабодна, пазбыцца адвечнага страху, няўпэўненасці. Штодзённага пачуцця віны... Нехта даставіў аўтаген, спрабаваў рэзаць, стваравючы з іншымі какафонію нявечання. Яны злавалі, робячы няспрытныя рухі, пудлуючы. Начапілі гальштукі, занялі кабінеты з шуфлядамі і партрэтамі, зрабіліся чыноўнікамі, гарадскімі жыхарамі, беларучнымі. Смаленне вепрука паяльнай лямпай засталося ў мінулым. Хай яны яго не пахавалі, але шчыльна зачынілі дзверы, павярнуўшы двойчы ключ і выкінулі, як пазбываюцца зброі забойцы. Заплюшчыўшы моцна, да сціскання яблыка, зрэнак, яны расплюшчылі вочы ў новае жыццё, каб болей ніколі не вяртацца ва ўчорашняе з гадоўляй на вёсцы кабаноў дзеля адзінай галоўнай мэты — забіць і з'есці. У горадзе прасцей схадзіць у краму ці ў саўмінаўскую сталоўку.

...Вершнікі былі сімвалам, які ім карцела прынізіць, перамагчы, знішчыць. Каб давесці перш сабе, што мы цяпер галоўныя, што самі будуць замаўляць музыку і ніхто іншы. І ніякіх больш рыцараў, ніякіх паданняў, легенд і нафталінных хронік, ніякай балбатні пра свабоду і дэмакратыю, пра шлях у Еўропу, дзе нас ніхто, запомніце, ніхто не чакае! Ніякай бескантрольнай свабоды слова, ніякіх вам мітынгаў і стыхійных дэманстрацый. Мужыкі — яны павінны мужыкамі заставацца, не пнуцца ўлезці бясплодна ў рыцарскія латы, уціснуцца ў чужыя рамкі. Працаваць трэба, а не ў жалезе задыхацца без паветра ды клаўстрафобна трымцець, спектаклі разыгрываць нікому не патрэбныя! Пастаў ты рыцараў тых за плуг, карова з сядлом атрымаецца, як з казла малака будзе! Так-так, углыбках душы яны прагнулі адчуць вострыя смак злацешнасці.

### Статуяборцы

Нішто не новае ў людскіх дзеях: конную статую нявечылі не першы і, мабыць, не апошні раз. Каранаваных тыранаў зрынаілі з п'едэстала неаднойчы. Разбурэнне статуй, знішчэнне папярэдніх багоў — старонка з хронікі, якую дапісваюць сёння. Але не патрапяць дапісаць. Заўтра схопяцца за помнікі, якія стварылі цяпер і канец ніколі не наступіць, як у самых людскіх дзеях...

Калі да стырна трапляюць філосафы, не дай Божа, паэты, прафесура, гуманітарыі — гэта заўжды перамога хісткая: няма жалезнай хваткі, няма абцугоў, а таму — вялікіх шанцаў затрымацца, не выпусціць з рук яе — уладу роднуо-самаборку! У іх грэблівасць выклікае аксіёма, што ўладу трэба абавязкова любіць больш за жыццё, тады не страціш.

...У далікатных няма органа, які адказвае за імкненне да бязмежнай улады. Прынамсі, ён у прыгнечаным, занядбаным ці зусім у рудыментарным стане. У іх адсутнічае звярыны інстынкт — намёртва ўчапіцца ікламі, нібы жалезнай пасткай на горле авечкі-краіны. Як мінімум патрэбны хоць бы паляўнічы азарт. Лямантаваць, трубіць у рогі, нястрымна трыумфаваць, біць у бубны, не баяцца крыві, а — прагнуць яе! Калі гэтага няма, ніякія рыцары не абароняць тваё крэсла, на якім мулка і няўтульна ад самага пачатку, калі азадак твой не дубовы. Збег акалічнасцяў, і ты заняў выпадкова чужое месца, таго, хто з улады зробіць сэнс жыцця. Бо, калі ты выйграў дзякуючы нялюдскім высілкам, спрыту, рашучасці і рызыцы, ты сціскаеш уладу ў абдоймах і пачынаеш разумець, што не хочаш больш ні з кім ёю дзяліцца і не будзеш! Так зрабіў Малаткоў, калі адхіліў ад улады прафесара Радзівілава, знаўцу антычных аўтараў. Залатое руно Малаткоў фанабэрліва высмыкнуў з бязвольных інтэлігенцкіх рук.

Канечне, усё можна было б зрабіць інакш, па-гаспадарску, са спакойнай рашучасцю — дэмантаваць статую, узняць кранам, пагрузіць у кодаб, а там — ці ў пераплаўку, ці на звалку — з вачэй далоў. Але проста зняць рыцараў нецікава. Без асалоды прыбраць, не стукнуўшы кулаком, не стварыць гучнай падзеі, пагуляўшы цягліцамі. І цяпер рыцары ляжалі пасечаныя на кавалкі не на баёвішчы крыжацкім. Пасярод Міргграда ляжалі. Шчыт і меч, рукі-ногі, галава адна-другая і конская храпа, хвост, тулава ляжалі. «Больш не будзе ніякіх рыцараў у гэтай краіне! — заявіў увечары ў тэлевізары Малаткоў. — Пакуль я гаспадар — тым больш. З мячом прыйшлі, ад мяча загнуліся! Па заслузе! Часам няможна грэбаваць, трэба браць гістарычную мятлу ў рукі паўторна, дзеля таго яны й рукі!»

...Так закончыўся кароткі, але каляровы рыцарскі час эйфарыі, свабоды гаварыць, пісаць, друкаваць і прамаўляць, спадзяваннаў калясіць паўсюль, дзе захочаш, без візаў.

...Ламалі рыцараў дбайна, з натхненнем ніщчылі. Нібы сяляне-стараверы трактар або лудзіты — ткацкі варштат. У скронях малаточкамі не зусім дарэчна пульсавалі радкі: «Біце ў сэрца іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць...», як супраць саміх сябе. Хістка, ліхаманкава думалася: «Парсюка шкада, ён член сям'і амаль, рыцары — стоды чужынскія, не ствараі сабе куміраў, не трэба».

### Першая рыцарская аповесць

«Амадыс дэ Гаўла» — аповесць рыцарская першая так называлася, на Іберыйскім напісаная паўвостраве, у якой з'явіўся раптам рыцар ідэальны, што распаўсюдзіўся па творах аўтараў сярэднявечных у хрысціянскім свеце. Інакш, бадай, і не магло быць: змаганне з іншаверныімі праходзіла крывавай баразной па землях, горных ланцугах і камяністых пустках Гранады а Кастыліі і каралеўства партугальцаў.

...У прамінулых дзеях багуславаў таксама месца рыцарам было, няпэўным месца было тое, здаралася не раз ім смерці падстаўляць чало. На рыцараў даспехамі і сэрцам навала азіяцкая, як саранча, лядела, знішчаючы не доблесцю, а лічбай. Захопленыя замкі, гарадскія сцены, разбураны самотныя данжоны, а рыцарам у глухменным месцы толькі схоў, каб сілу ашчадзіць, каб выкаваць мячы наноў. Папартызанску дзейнічаць здаралася тады і потым — у наступныя вякі. Для багуслава рыцар той, каму зайздросціць мог, а мог і ў сэрцы ненавідзець: за тое, што трываў у латах і гінуў гэтак жа — са зброяй у руках.

### Босх, турэмны сон Радзівілава

Рыцар ляжыць у латах, пакінуты самотным на зямлі, ад ранаў памірае. Спяклася кроў і не напітвае болей глебы. Рыцар за што змагаўся, чыйго ён войска? Невядома. Ці змагаўся за свайго ён суверэна? Магчыма. Хто быў ім — граф, маркіз, вялікі князь ці нават, можа быць, кароль? Ніхто не ведае, бо гэта сон. Нікога бо няма, спытаць ніякае магчымасці. А Радзівілаў разумее, што два шляхі ў яго сягоння ноччу: напружыцца і вынырнуць са сна, расплюшчыць вочы ў ноч. Ды ў ноч такую зрокам сягаць не хочацца, няма куды ісці ў такое ночы. Застацца — выйсце, каб не вяртацца хутка ў вязніцу, у «кайданаўку». Таму паспрабаваць даўмецца, што з рыцарам тым здарыцца магло — яго дарога ў гэтай ночы. Але становіцца яму раптоўна ясна, як быццам грудзі губкай напаталіся салёнаю вадой, няма паветра месца, няма паветра больш: усё безнадзейна, гэта Босх, ніякіх шанцаў рыцару не засталося. Навокал небарачныя бадзячыя сабакі, ды што: сабака, ён не вораг чалавеку, ды гэта Босх — нахабныя ад баязлівасці шакалы наўзбоч карціны, не кажучы аб пацуках, якім заўсёды на такіх палотнах месца забяспечана.

### Іклы, кіпцюры, з турэмнага дзённіка Радзівілава

Часам мне здаецца ўлада хваробай. А вылячэння няма. Няма. Ты сам сябе не вылечыш і дактарам добраахвотным будзеш не давяраць. Будзеш прагнуць падмануць іх, прасцячком прыкінуцца, каб самых каварна ў смірэнчую кашулю, з вачэй, каб адпомсціць, што яны цябе выкрылі, што здагадаліся: у цябе не ўсе дома, улада зводзіць цябе з глузду.

Прагны ўлады сваю агрэсію, інстынкты не пакіне пры сабе, накіруе ў жыццё краіны. У яго розуму няма, ён проста хітры, выварoтлівы, пры чым тут розум?! Усіх свабодалюбных за краты, астатніх, памяркоўных, прыгнесці, самому ўзлезці на трыбуну, і каб табе крычалі «Ура!» да хрыпкі — гэта не розум, гэта яго адсутнасць.

Хаця помста — гэта сагі, ці не большасць прысвечана помсце за нейкія крыўды, за прыніжэнні, за здраду. Змест хронік, сама гісторыя — ланцуг помшчання. Але, людцы мае, гэтым звесткам сотні, тысячы гадоў! У нас іншы час: у нас унітаз, кішэнныя тэлефоны і электронная пошта, нашы людзі ў космасе! Гэта памылка, што чалавек можа фантастычна змяняць сваё жыццё, але не развівацца асабіста. Не ўставаць з чацвярэцы, не пазбывацца поўсці. Не зжываць у сабе звера. Так-так, зусім не рабіцца лепшым і ўвесь час трымаць у галаве свой камень за пазухай...

---

Распуціна пахаваюць у Іркуцку, але адпяваць у Маскве будзе патрыярх Кірыл у Храме Хрыста Збаўцы.

### Акадэмік-хірург Аляксандр Руцкі

На 84-м годзе жыцця памёр акадэмік Аляксандр Руцкі, адзін з самых вядомых беларускіх хірургаў. Ён нарадзіўся ў 1932 у вёсцы Бортнікі Баранавіцкага раёна. Акадэмік (2002), доктар медыцынскіх навук (1976), прафесар (1977).



### Фантаст Тэры Пратчэт

Англійскі пісьменнік Тэры Пратчэт памёр ва ўзросце 66 гадоў. Сем гадоў таму яму дыягнаставалі хваробу Альцгеймера.

Пратчэт найперш вядомы цыклам раманаў «Пляскаты свет», а таксама забаўляльнай кнігай «Кот без прыўкрас». Пратчэт пісаў фантастыку, але пры гэтым з іроніяй і сарказмам выказваўся па ўсіх актуальных пытаннях сучаснасці.



Апошнія гады ён стабільна прэтэндаваў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры.



**Сметнік пад Мінскам: іншы бок нашай чысціні. Камунальнае прадпрыемства па перапрацоўцы бытавых і будаўнічых адкідаў «Экарэс», што ў Трасцянцы, на ўскрайку Мінска, штогод прымае дзясяткі тысяч тон смецця і адкідаў. Пластык, шкло, арганіка, другасная сыравіна — усё гэта альбо перапрацоўваюць, альбо загортваюць у зямлю.**



**Невылечна хворая жанчына глядзіць на партрэт Рэмбранта ў Дзяржаўным музеі Амстэрдама. 78-гадовая пацыентка, якая пакутуе на хваробу Лу Герыга (бакавы аміятрафічны склероз), стала адной з трох смяротнахворых пацыентаў, якіх цягам тыдня адвезла ў музей дабрачынная арганізацыя Stichting Ambulance Wens.**



**Гэтак на выхадных у Строчыцах гукалі вясну.**




**Так будзе выглядаць новы лагатып Беларускай федэрацыі хакея.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Іспанец — чалавек, а іспанка — грып; амерыканец — чалавек, а амерыканка — більярд; індзеец — чалавек, а індзейка — птушка; карэец — чалавек, а карэйка — ежа; балгарын — чалавек, а балгарка — інструмент; фін — чалавек, а фінка — нож; паляк — чалавек, а полька — танец; чэхі і в'етнамцы — людзі, а чэшкі і в'етнамкі — тэпці. І толькі беларуска — чалавек, а беларус — трактар.

* * *

Калі доўга сядзець на беразе ракі, рана ці позна цябе звольняць з працы.

* * *

– Мізантроп, сярод вас ёсць мізантроп?
– Так, я мізантроп. Што здарылася?
– Тут чалавеку кепска. Радуйцеся!

* * *

Фрэйд памёр, так і не патлумачыўшы нам, якія праблемы ў тых, хто ставіць падабайкі пад уласнымі допісамі.

* * *

– Давай ты заплюшчыш вочы і тыцнеш ў карту наўздагад. Куды патрапіш пальцам — там мы і правядзём адпачынак!
– Але гэта вінная карта!
– Тыцкай ужо!

* * *

Дзяўчына:
– Скажы, а ты клёвы?
Хлопец:
– Я занадта сціплы, каб сказаць «так» і занадта клёвы, каб сказаць «не».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Беларуская мова ў школах.** На з'ездзе папячыцеляў разглядалі заявы бацькоў-беларусаў, дзеці каторых вучацца ў школах (гімназіях і інш.) Мінскай губерні. У адной заяве бацькі жаліліся, што з прычыны цыркуляра быўшага міністра Касо ў гімназіях пастанавілі, каб дзеці вучылі Закон Божы па-расейску. Міністр асветы гр.Ігнацьеў, разглядзеўшы гэтыя заявы, прызнаў патрэбным і правільным, каб навука веры для беларусаў адбывалася ў іх роднай беларускай мове.

**«НН». №11. 1915.**

**Сяргей Абламейка: Каханы горад.** Ты верыш, што ў дамах і будынках Старога горада будуць дзясяткі розных тэатраў, а акцёры будуць падзарабляць, даючы старабеларускія школьныя інтэрмедыі проста на вуліцах, і людзі будуць хапацца за жываты ад рогату. Беларуская батлейка зазнае ў адроджаным Мінску росквіт. Уначы на вуліцах будзе хадзіць сярэднявечная варта, а выхады са Старога горада і ўваход у замак будуць сімвалічна на ноч перакрывацца кабылінамі. Паўсюль будуць кнігарні, пякарні, гасподы, шынкі...

**«НН». №11. 2005.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.03.2015.
Замова №932.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15011